Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 23 студзеня 1987 г. № 4 (3362) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# БЫЦЬ НА СТРЫЖНІ ЧАСУ

На мінулым тыдні адбыўся адкрыты партыйны сход Саюза пісьменнікаў БССР. З дакладам «Аб перабудове работы партыйнай арганізацыі СП БССР і задачах, якія вынікаюць з рашэнняў XXVII з'езда КПСС, IV пленума ЦК Кампартыі Беларусі» выступіў намеснік сакратара партбюро Г. Далідовіч. Ён звярнуў увагу на патрабаванні павысіць ролю пярвічных партыйных арганізацый, развіваць іх самастойнасць, наступальнасць, ініцыятыўнасць.

— У полі зроку партбюро, якое выбрала новага сакратара В. Гігевіча, — сказаў дакладчык, — павінна быць уся разнастайная дзейнасць Саюза пісьменнікаў: і работа сакратарыята, і друкаваных літаратурных выданняў, і творчых секцый, партгруп, і грамадская актыўнасць, маральнае аблічча кожнага камуніста.

Г. Далідовіч адзначыў шэраг твораў, якія вызначаюцца сучасным мысленнем, глыбокім пранікненнем у жыццё, у праблемы нашай рэчаіснасці. Гэта вершы Максіма Танка, П. Панчанкі, Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, В. Зуёнка, А. Грачанікава, Я. Янішчыц і іншых нашых паэтаў. Сярод празаічных твораў, якія прыцягнулі ўвагу чытача надзённасцю ўзнятых праблем, — раманы, аповесці, п'есы В. Быкава, В. Казько, В. Гігевіча, А. Кудраўца, А. Петрашкевіча і інш.

Разам з тым дакладчык адзначыў адставанне публіцыстыкі, якая часта грашыць апісальнасцю, драбнатэм'ем, некампетэнтнасцю.

Дакладчык спыніўся на стане літаратурнай крытыкі, якая яшчэ не можа пахваліцца вялікімі набыткамі. Яе суправаджаюць старыя хваробы — адарванасць ад жыцця, ад таго, што робіцца ў літаратуры.

У дакладзе знайшлі месца і пытанні сувязей СП БССР з іншымі творчымі саюзамі, тэлебачаннем, міністэрствамі асветы і культуры. Была прааналізавана работа партбюро, адзначаны пэўныя ўпушчэнні ў яго дзейнасці.

Б. Спрынчан, які адкрыў спрэчкі, расказаў, як адбываецца перабудова ў часопісе «Неман», спыніўся на першай кніжцы часопіса за 1987 год, дзе друкуецца актуальны артыкул І. Чыгрынава, пераклады цікавых твораў П. Панчанкі, Я. Янішчыц, В. Карамазава.

А. Карпюк папракнуў установы культуры Гродна, дзе, на яго думку, слаба дбаюць пра канкрэтнага чалавека, пра яго духоўныя запатрабаванні.

В. Якавенка засяродзіў увагу прысутных на пытаннях выкладання беларускай мовы і літаратуры, якія былі ўзняты на старонках «ЛіМа», заклікаў не абмяжоўвацца дэкларацыямі, а актыўна дзейнічаць дзеля практычнага вырашэння гэтых пытанняў.

— Давайце ўявім, што і ў нашым асяроддзі, у творчай дзейнасці часопісаў таксама ўявлі Дзяржаўную прыёмку, — сказала Н. Маеўская. — У нашым часопісе «Беларусь» мы імкнёмся да павышэння якасных крытэрыяў, адбор матэрыялу да друку праводзім строга. Разам з тым, трэба адзначыць, што ў нас мала аўтараў, якія могуць пісаць востра, надзённа.

Аб рабоце выдавецтва «Юнацтва» ва ўмовах перабудовы гаварыў Я. Каршукоў. Ён падкрэсліў, што ў выдавецкай практыцы ёсць яшчэ нямала недахопаў. У прыватнасці, прамоўца звярнуў увагу аўдыторыі на слабы ўдзел пісьменнікаў у конкурсах на лепшую дзіцячую кнігу. А між тым, добрых твораў, адрасаваных сённяшняму школьніку, навучэнцу ПТВ, няма.

Адна з даўніх праблем — мала добрых твораў для мастацкай самадзейнасці. Пра гэта гаварыла Н. Загорская, якая заклікала пісьменнікаў уключыцца ў стварэнне клубнай драматургіі.

— Мы толькі на подступах да перабудовы, — сказаў Н. Гілевіч. — Яна павінна, відаць, пачынацца з партыйнай арганізацыі, з кожнага камуніста. Вы паглядзіце, якія вострыя матэрыялы друкуе цэнтральная прэса, якія, бывае, жахлівыя факты тут выкрываюцца. Але калі пра гэта гаворыцца ўголас, значыць, ёсць упэўненасць—усё, што перашкаджае нам, будзе пераадолена. Хочацца бачыць і ў нас такую ж вострую публіцыстыку. На жаль, бывае, што пісьменнік, і адарваўшыся ад пісьмовага стала, не здольны ўбачыць драматургію жыцця, прывозіць з творчай камандзіроўкі творы павярхоўныя, пазбаўленыя сацыяльнасці.

Н. Гілевіч падтрымаў думку, якая прагучала ў дакладзе і некаторых выступленнях, што партбюро занядбала работу з камуністамі, спынiўся на пытаннях развіцця нацыянальнай мовы, нацыянальнай культуры.

Асобныя праблемы літаратурнага жыцця закранулі ў сваіх выступленнях А. Шаўня, А. Капусцін, загадчык школы «Юны літаратар» У. Кароткі.

Сход прыняў пастанову, накіраваную на актывізацыю партыйнага жыцця ў святле патрабаванняў XXVII з'езда КПСС.

# ЗБОРЫ ВЕДАЎ, ЗДАБЫТКАЎ, ПАМЯЦІ

**Выдавецтву «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі — 20 гадоў**



12 снежня 1968 года. П. Броўка падпісвае ў набор І том Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Злева — А. Петрашкевіч.

З афіцыйных дакументаў апошняга часу—гэты, бадай, адзін з самых кароткіх, лаканічных і важных. Пастанова Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі і Савета Міністраў БССР, прынятая ў снежні 1966 года. Літаральна некалькі радкоў. Але якіх радкоў! Стварыць у сістэме Акадэміі навук БССР Галоўную рэдакцыю Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, галоўным рэдактарам прызначыць народнага паэта Беларусі, акадэміка АН БССР Пятра Усцінавіча Броўку. Збылося тое, пра што ў рэспубліцы марылі даўно. Нездарма ж ка-

(Заканчэнне на стар. 2—3).

АНОНС

# «ПЕЎЧАЕ ПОЛЕ»

Такога поля пакуль што няма ў Беларусі. Але яно абавязкова будзе. Будзе таму, што мы, беларусы, маем найбагацейшыя традыцыі спеваў, таму што ўся наша зямля — вялікае пеўчае поле, таму што песні свае здаўна спяваем не паасобку, а найчасцей разам, хорам.

Дзе будзе Пеўчае поле, якім будзе Рэспубліканскае свята песні—аб гэтым пойдзе гаворка за «круглым сталом» Беларускага тэлебачання, на які запрошаны міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч, прадстаўнікі аддзелаў культуры ЦК КПБ і ЦК ЛКСМБ, Белсаўпрофа, хормайстры, кампазітары, пісьменнікі, мастакі.

Прамая перадача «круглага стала» адбудзецца 24 студзеня ў 18 гадзін 20 мінут. Пазваніць, выказаць свае прапановы, задаць пытанні ўдзельнікам размовы можна будзе па тэлефонах: 64-81-07, 64-73-26, 64-92-44, 64-85-15.

# НЕЎМІРУЧАСЦЬ ЛЕНІНСКАЙ СПАДЧЫНЫ

Вечна жывое марксісцка-ленінскае вучэнне, якое ўзята сёння на ўзбраенне перадавымі людзьмі ўсяго свету. Цікавасць да неўміручай ленінскай спадчыны ўзрастае з кожным годам, бо ў геніяльных творах правадыра чалавецтва можна знайсці адказ на самыя надзённыя пытанні сучаснасці, яны падказваюць, як жыць і працаваць, змагацца за светлыя ідэалы камунізму. Таму не выпадкова, што павялічваецца і колькасць перакладаў ленінскіх прац на мовы народаў СССР і свету.

Пацвярджэнне таму — «Выбраныя творы» У. І. Леніна ў 10 тамах на беларускай мове, падрыхтаваныя супрацоўнікамі Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, выпуск якіх ажыццяўляе выдавецтва «Беларусь». Хутка падпісчыкі атрымаюць трэці том. У яго ўвайшлі работы, напісаныя У. І. Леніным у лістападзе 1901 — маі 1904 года — «Што рабіць? Набалелыя пытанні нашага руху», «Праект праграмы Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі», «Да вясковай беднаты. Тлумачэнне для сялян, чаго хочуць сацыял-дэмакраты», «Праект статута РСДРП», прамовы і выступленні на II з'ездзе РСДРП, «Крок уперад, два крокі назад (Крызіс у нашай партыі)» і іншыя.

Сёлета выйдзе і чацвёрты том, змест якога складуць артыкулы У. І. Леніна, што характарызуюць пачатак першай рэвалюцыі ў Расіі і расстаноўку класавых сіл. Гэта — «Пралетарыят і сялянства», «Сацыял-дэмакратыя і часовы рэвалюцыйны ўрад», «Рэвалюцыйная дэмакратычная дыктатура пралетарыяту і сялянства» і іншыя матэрыялы.

Вялікая ўвага ўдзяляецца таксама выпуску ў перакладзе на беларускую мову зборнікаў твораў У. І. Леніна і асобных работ правадыра. У прыватнасці, выдаецца зборнік «Да гадавін Кастрычніцкай рэвалюцыі», які складаецца з твораў, прысвечаных пяці першым гадавінам Кастрычніцкай рэвалюцыі, а таксама прамоў, артыкулаў і выступленняў, што характарызуюць ролю партыі бальшавікоў у перамозе Вялікага Кастрычніка, яго вялікія заваёвы. На беларускай мове пабачыць свет брашура «Пагражаючая катастрофа і як з ёю змагацца», як вядома, напісаная ў верасні 1917 года. У ёй У. І. Ленін распрацаваў праграму партыі бальшавікоў па прадухіленні эканамічнай разрухі на чацвёртым годзе імперыялістычнай вайны, далей развіў палажэнне аб магчымасці перамогі сацыялізму першапачаткова ў адной, асобна ўзятай, капіталістычнай краіне.

## ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

Чарговая «Паэтычная пятніца» ў Доме літаратара прысвячалася творчасці Канстанцыі Буйло. Пачалася яна песняй «Люблю мой край...», што даўно стала народнай і мелодыя якой штодня гучыць як пазыўныя радыёстанцыі «Крыніца». Выканала яе лаўрэат Усесаюзнага конкурсу Т. Чанцова, а сам верш прачытала народная артыстка БССР М. Захарэвіч.

Пра жыццёвы і творчы шлях паэтэсы расказала вядучая Р. Баравікова. Успамінамі аб сустрэчах з Канстанцыяй Антонаўнай падзяліліся Э. Агняцвет, С. Шушкевіч, намеснік рэдактара газеты «Голас Радзімы» Д. Чаркасава.

Гучалі песні на словы К. Буйло і народныя мелодыі, вершы паэтэсы чыталі артысты мінскіх тэатраў. Інжынер В. Стралко пазнаёміў прысутных са сваім перакладам твораў К. Буйло на рускую мову.



Слова пра Канстанцыю Буйло гаворыць Раіса Баравікова.

Тэкст і фота Ул. КРУКА.

Фальклорныя вечары ў Доме літаратара — не рэдкасць. І трэба сказаць, што кожны з іх прыносіць задавальненне аматарам народнага мастацтва. Так было і на гэты раз, калі прысутныя змаглі пазнаёміцца з новай праграмай харэаграфічнага ансамбля «Унукі» Мінскага інстытута культуры. Фальклорна - харэаграфічная кампазіцыя «Каляда ідзе» — яркае, непаўторнае відовішча, у якім узноўлены народныя традыцыі, жыве сама мудрасць і досціп народа, раскрываюцца невычэрпныя магчымасці танца.



Фрагмент кампазіцыі «Каляда ідзе».

Фота Ул. КРУКА.

Аўтарскі вечар лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Уладзіміра Будніка прайшоў у рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў. Заслужаныя артысты рэспублікі Г. Радзько, Л. Барткевіч, а таксама Н. Мікуліч, дуэт Г. Нікіціна і А. Цівунова выканалі творы кампазітараў. У канцэрце прынялі ўдзел вядомы музыкант - рэстаўратар старадаўніх беларускіх музычных інструментаў У. Пузыня, юны спявак, вучань адной з мінскіх школ У. Нікіцін.

Вёў вечар журналіст Д. Падбярэзскі.

Н. ЗАХАРАВА.

## ПЕРАКЛАДЫ

Густаў Гупка (нар. у 1925 г.) — адзін з вядучых сучасных славацкіх паэтаў. Дэбютаваў ён у 1963 г. зборнікам вершаў «Вінаграднае сонца». Аўтар кніг «Пальцы закаханых» (1964), «Трава звініць пасля поўначы» (1967), «Твой залаты век» (1971), «Бессмяротнасць шчасця» (1977) і інш. У лірыцы Г. Гупкі арганічна нітуюцца выразна грамадзянскія матывы з інтымнымі пачуццямі, глыбокі патрыятызм з інтэрнацыяналізмам. Пісьменнік актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці сваёй краіны. Працаваў арганізацыйным сакратаром Саюза славацкіх пісьменнікаў, рэдактарам часопісаў «Пад сцягам сацыялізму», «Жыццё», «Змагар». Цяпер рэдагуе часопіс «Новы шлях».

Г. Гупка сэрцам успрыняў тыя дабратворныя перамены ў грамадскім жыцці, якія пачаліся ў СССР і краінах сацыялістычнага лагера пасля гістарычнага XXVII з'езда КПСС. Верш «Надзённае», а якім выявілася грамадзянская пазіцыя паэта, змешчаны ў органе Камуністычнай партыі Славакіі газеце «Pravda» 3 кастрычніка 1986 г. Прапаную гэты твор увазе чытачоў штотыднёвіка ў сваім перакладзе.

Вячаслаў РАГОЙША.

Густаў ГУПКА

### НАДЗЁННАЕ

Абыходжу дамы і хаты...
Добра жывецца на нашай
Радзіме,
аж занадта добра...
Ды хтосьці на вуха ўсё шэпча:
«Толькі каму, каму?..»
Радзіма — гэта магніт любові,
гэта цэлы сусвет у душы,
гэта ўзаемнае прыцягненне
чалавека і роднага краю,
гэта музыка шчырых пачуццяў...
Радзіма — гэта дзівоснае
дрэва,
што галініцца з нашай энергіі,
Радзіма — гэта мы,
сэрцы, якія ў нас б'юцца,
і — якія надарваліся,
носячы ў змроку фашызму
цяжар адвагі і страху...
Радзіма — гэта рэвалюцыйныя
ідэалы
і рабочыя крокі гісторыі,
гэта забастоўкі і маніфестацыі,
Радзіма — гэта нашы надзеі,
нашы намеры і нашы планы,
якія ў нас і якія — перад намі...
Але на Радзіме — і ворагі
нашы,
што дыхаюць тым жа паветрам
і ходзяць упобачкі з намі.
Бюракратычнымі кіпцямі
яны разграбаюць памылачкі,
а буйныя хібы не заўважаюць;
яны дудняць пра дэмакратыю
і адначасова з дрэва
латошаць разам з пладамі
і лісце
і разам з галінамі хочуць
зламаць і нашую моц...
Яны яшчэ ў генах
прынеслі нянавісць да нас,
цяпер жа з прытворствам
хваляць і недахопы,
і пра перавагі сацыялізму
пяюць свае оды й тады,
калі ўсім ужо бачны памылкі,
што рух наш тармозяць...
Але сацыялізм служыць і ім,
гэтым псотнікам сацыялізму.
Ды псота іх не відна адразу,
кожны з іх, быццам блошка:
тут кусане, там засвярбіць
трош·
А мы церпім заразу
і на хібы шукаем лекі ўпарта,
а яны сваімі плёткамі
аплятаюць партыю...
Відаць, у запале змагання
мы забыліся пра гэтага ворага,
які, нібы жук-тачыльшчык,
утачыўся пад кару жыцця
і пранік да самае сэрцавіны.
То нас ён падчас
некуды шалёна гоніць,
то раптам крадзе дарагі час,
то іншых заражае зайздрасцю
да нас,

# ЗБОРЫ ВЕДАЎ, ЗДАБЫТКАЎ, ПАМЯЦІ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

жуць: па-сапраўднаму цывілізаваным можа лічыцца толькі той народ, які мае свой сцяг, герб і энцыклапедыю...

Першыя захады па стварэнні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі рабіліся яшчэ ў канцы трыццатых гадоў. Аднак тады не было ні адпаведнай навуковай базы, ні іншых умоў і магчымасцей. А ў 1967 годзе пра энцыклапедыю можна ўжо было гаварыць, як пра штосьці рэальнае. Была база, былі сілы. Вопыт Украінскай Савецкай Энцыклапедыі, якая выйшла ў семнаццаці тамах, падказваў, як і што рабіць. Неабходна было паверыць ва ўласныя сілы, ініцыятыву ў свае рукі ўзяў П. Броўка, які з першых дзён стварэння рэдакцыі меў падтрымку і ўзаемаразуменне з боку тагачаснага першага сакратара ЦК КПБ Пятра Міронавіча Машэрава. Меркавалася спачатку выпусціць шэсць тамоў, Пётр Усцінавіч пераканаў, што неабходна выдаваць дванаццаць.

У самыя сціслыя тэрміны былі зацверджаны штатны расклад Галоўнай рэдакцыі, вызначаны і выдзелены асігнаванні па ўтрыманне ўстановы і на аплату ганарару будучым аўтарам першага тома БелСЭ, выдзелены пакоі для супрацоўнікаў у будынку Акадэміі навук, вырашана пытанне аб будаўніцтве спецыяльнага будынка для Галоўнай рэдакцыі БелСЭ.

Неўтаймоўная энергія і арганізатарскія здольнасці П. Броўкі спатрэбіліся і для збірання калектыву—людзей адукаваных і апантаных. Пётр Усцінавіч прапанаваў стварыць для гэтага спецыяльную камісію. Аддавалі перавагу тым, хто меў некалькі спецыяльнасцей, кандыдацкія ступені, вучыўся ў аспірантуры альбо здаў аспіранцкі мінімум па прафесіі. Арыентаваліся на энтузіястаў энцыклапедычнай справы, якія працавалі ў іншых выдавецтвах, архівах і музеях, рэдакцыях газет і часопісаў.

У адведзеных пакоях Акадэміі навук было, зразумела, цесна. Вельмі цесна. Тады П. Броўка і сказаў словы, якія і сёння «старыя» энцыклапедысты вымаўляюць і з усмешкай, і з пачуццём гонару за чалавека, пад кіраўніцтвам якога давялося ім у свой час працаваць: «У новым доме пры першым томе!». Будынак энцыклапедыі быў узведзены за год і два месяцы—за нечувана кароткі тэрмін. У 1969 годзе, калі калектыў перасяліўся ў яго, выйшаў з друку і першы том БелСЭ. Ён быў выдадзены таксама за вельмі кароткі час. Ды і ўся энцыклапедыя — таксама: апошні, дванаццаты том пабачыў свет ужо ў 1975 годзе.

Тым самым ажыццявілася справа важнай не толькі культурнай, але і дзяржаўнай значнасці—беларусы атрымалі сваю Энцыклапедыю, быў пакладзены пачатак далейшаму развіццю энцыклапедычнай справы ў рэспубліцы.

Пра тое, што ўжо зроблена і робіцца выдавецтвам сёння, пра планы на будучае расказвае **І. Шамякін,** галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі:

**— Споўнілася 20 гадоў, як на Беларусі існуе нацыянальны «энцыклапедычны цэнтр» — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, якой на працягу многіх гадоў кіраваў славуты дзеяч беларускай культуры Пятрусь Броўка і імя якога яна з 1980 года з гонарам носіць. За гэты час у БелСЭ падрыхтаваны і выдадзены 52 тамы фундаментальных энцыклапедый і энцыклапедычных даведнікаў універсальнага, рэгіянальнага і галіновага характару, 10 тамоў нарматыўных слоўнікаў беларускай мовы, больш за 20 назваў папулярных рознагаліновых даведнікаў-мікраэнцыклапедый, а таксама больш як 20 твораў класікаў сусветнай і савецкай літаратуры.**

**Штогадовы тыраж літаратуры выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі ў апошнія гады ўстойліва перавышае 1 мільён экземпляраў. Выдавецтва супрацоўнічае больш як з 6 тысячамі аўтараў, сканцэнтраваўшы вакол сябе практычна ўсіх вядучых дзеячаў беларускай культуры, спецыялістаў народнай гаспадаркі і ідэалагічных работнікаў. Яно вядзе вялікую пошукавую, даследчыцкую і арганізацыйна-метадычную работу па выяўленні, зборы, сістэматызацыі звестак аб развіцці і здабытках матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі ад часоў далёкай гістарычнай мінуўшчыны да сённяшніх дзён. Многія са створаных у «БелСЭ» энцыклапедычных выданняў не маюць сваіх аналагаў не толькі ў іншых саюзных рэспубліках, але і ў свеце і ацэнены грамадскасцю як унікальныя.**

**Наперадзе — нялёгкая праца па рэалізацыі новых складаных задум. Новы час, новае мысленне патрабуюць не толькі напружанага пошуку ці ажыццяўлення ўжо выпрацаваных і абдуманых ідэй, але і своечасовага, даходлівага ўвасаблення іх у выглядзе найбольш патрэбных на сённяшні дзень энцыклапедый і энцыклапедычных даведнікаў. Побач з перапрацоўкай і перавыданнем добра вядомай чытачам 12-томнай БелСЭ, выдавецтва мае намер падрыхтаваць і выдаць у трынаццатай пяцігодцы шэраг энцыклапедый па літаратуры (шматтомны біябібліяграфічны даведнік пра пісьменнікаў Беларусі), дзіцячую і школьную энцыклапедыі, прыкладныя і папулярныя даведнікі па розных галінах навукі і народнай гаспадаркі, жыцця, працы і быту чалавека.**



«Штаб» выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Злева направа — І. Хаўратовіч, І. Шамякін, А. Петрашкевіч, Я. Малашэвіч

Расказ працягвае намеснік галоўнага рэдактара **А. Петрашкевіч:**

**— Да больш значных і важкіх выданняў я аднёс бы «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі», пяты том якой мы здаём у набор, і энцыклапедычны даведнік «Янка Купала», што літаральна ў гэтыя дні выйшаў з друку і пра які, несумненна, «ЛіМ» неўзабаве раскажа. Думаю, што добрым падмуркам у сапраўдную эма-**

## КНІГАПІС




Я. БРЫЛЬ. Сёння і памяць. Апавяданні, мініяцюры, эсэ. Аўтарызаваны пераклад з беларускай. М., «Советский писатель», 1986.

**Проза Янкі Брыля, якая вызначаецца тонкім лірызмам, глыбокім псіхалагічным пранікненнем у характары герояў, значнасцю асэнсавання жыцця, заўсёды прыцягвае чытацкую ўвагу. Ягоная кніга «Сёння і памяць», у якую ўвайшлі апавяданні, мініяцюры і эсэ, напісаныя ў апошні час, не так даўно выйшла на беларускай мове. А цяпер яна выпушчана ў перакладзе на рускую. Творы пераклалі І. Сяргеева, Г. Папоў, В. Тарас і Н. Кіслік.**



А. КАПУСЦІН. Гудок далёкага поезда. Аповесці, апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1986.

**Змест кнігі склалі лепшыя творы Аляксандра Капусціна, напісаныя амаль за сорак гадоў творчай працы. Асноўнае месца ў аднатомніку займаюць аповесці «Скажу праўду» і «Зорка засвеціцца ярчэй», у якіх аўтар малюе вобразы тых, хто стаіць на ахове правапарадку і сацыялістычнай законнасці.**

**Тэматыка апавяданняў — розная. Пісьменніка цікавіць маральна-этычная праблематыка («Сталетнік», «Белае медзведзяня», «Пах жывіцы»), расказвае ён пра ветэранаў вайны і працы (цыкл «Дзядзька з ордэнскімі планкамі»). І, вядома ж, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны А. Капусцін не абыходзіць тэмы ўсенароднай барацьбы з фашызмам («Бомба», «Дождж», «Міцькава пісьмо», «Два словы папольску» і іншыя апавяданні).**



А. ЯРОХІН, Б. ЗУБКОЎСКІ. Героямі не нараджаюцца. Дакументальная аповесць. Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Мн., «Юнацтва», 1986.

**Дакументальная аповесць Анатоля Ярохіна і Браніслава Зубкоўскага «Героямі не нараджаюцца» — яна выйшла ў серыі «Слава твая, Радзіма!» — расказвае пра кароткае, але яркае жыццё Мікалая Чэпіка, які гераічна загінуў у Афганістане, выконваючы інтэрнацыянальны абавязак, і пасмяротна быў удастоены звання Героя Савецкага Саюза.**

**ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ**

# АСЦЯРОЖНА: ДЗЕЦІ

**Васіль ВІТКА**

## ВУНДЭРКІНДЫ З ПЯЛЁНАК

Медыкі і педагогі спрачаюцца, высвятляюць — з якога ўзросту: з шасці ці пяці трэба пасылаць дзяцей у школу, а амерыканка Глорыя Кліфард пачала навучаць свайго сына грамаце, калі яму ледзь споўнілася чатыры... месяцы! Яна прымацоўвала на розныя рэчы ліст паперы, дзе буйнымі літарамі былі напісаны словы, якімі называліся гэтыя рэчы. Ужо цераз паўгода малое, зірнуўшы на слова, беспамылкова паказвала на адпаведны прадмет. Свой метад Глорыя Кліфард праверыла на некалькіх немаўлятах ва ўзросце ад чатырох да пяці месяцаў. Усе яны, па яе сцвярджэнні, аказаліся здольнымі вучнямі. Шкада толькі, што праверыць іх поспехі— як яны чытаюць — немагчыма, бо гаварыць яны яшчэ не ўмеюць.

Усё часцей і часцей ва ўсім свеце паяўляюцца адкрыцці, эксперыменты, назіранні, вывады, амаль сенсацыйныя — дзіця ледзь не з першага дня нараджэння валодае магчымасцямі, пра якія мы нават не маглі думаць, не здагадваліся раней: з чатырох-пяці месяцаў яно ўжо трымаецца на вадзе, плавае — не раз паказвалі па тэлебачанні; заходнегерманскі часопіс «Штэрн» паведамляе пра рэкардсмена з соскай, якога бацька паставіў на водныя лыжы!

Мяркуючы па фатаграфіі, выпрабаванне прайшло пераможна, быў пабіты ранейшы рэкорд. Не лішняй будзе падрабязнасць, што пераўзышла 9-месячнага амерыканца немка ва ўзросце 8 месяцаў і 10 дзён! Крый бог, калі пагоня за рэкордамі на гэтым не скончыцца, а дойдзе да таго, што на водныя лыжы пачнуць ставіць дзяцей, якія яшчэ і стаяць не могуць — дадумаюцца, удасканаляць тэхніку спаборніцтва за рэкорды, за сусветнае першынство, бізнес і славу! Так дзеці могуць стаць, ды ўжо, як бачыце, становяцца ахвярамі ажыятажу, сенсацый. Да навуковых даследаванняў, фізіялагічных, псіхалагічных і педагагічных прагнозаў адразу ж прылучыліся спекуляцыйныя намеры і прагматычныя разлікі.

Яшчэ адзін канкрэтны доказ лінгвістычных магчымасцей у дзіцячым узросце: Дзіма Ваннікаў, вучань нарыльскай школы № 1, скончыўшы 3 клас, далучыўся да выпускнікоў, якія здавалі экзамены па англійскай мове ў аб'ёме ўсёй школьнай праграмы за дзесяць год навучання і здаў на «добра». Дзіма ніякі не вундэркінд, звычайны ў сваім узросце: любіць гуляць у хакей, у шахматы, шмат чытае, прачытаў ужо сем тамоў «Дзіцячай энцыклапедыі».

«Англійскую мову ён пачаў вывучаць з чатырох год, як толькі навучыўся чытаць па-руску, — расказвае Дзімаў тата, інжынер-будаўнік. — Мы з жонкай рашылі: калі ў яго прападзе цікавасць або ён пачне стамляцца ад гэтых заняткаў, хай кідае, прымушаць не будзем».

Цяпер актыўны запас англійскіх слоў у Дзімы — паўтары тысячы, пасіўны — дзве з паловай тысячы.

ТАСС падало інфармацыю, і, мабыць, усе газеты краіны, а то і за мяжой апублікавалі як сенсацыю пра сёлетняга юнака студэнта, 12-гадовага бакінскага школьніка-медаліста Косцю Славіна, які паступіў на першы курс Азербайджанскага медінстытута. У школе ён вучыўся з пяці год. Маці, Франгіз Мірзоеўна, лічыць, што Косця звычайны хлопчык. Педагогі і медыкі адзначаюць рэдкае спалучэнне памяці з цікаўнасцю і ўседлівасцю. Хлопчык, рашыўшы стаць доктарам, змалку цікавіўся спецыяльнай літаратурай. Калі яго аднагодкі перайшлі ў трэці клас, яго настольнай кнігай была «Малекулярная генетыка». Цяпер вывучае японскую мову.

Згадзіўшыся з фактам магчымасці паступаць і вучыцца ў ВНУ 12-гадовым студэнтам, тым болей, што такія прыклады не адзінкавыя, відаць, неабходна, перш за ўсё, падумаць, а як жа яму, 12-гадоваму, будзе ў асяроддзі людзей дарослых? А як яму пры сучаснай інфантыльнасці пасля заканчэння навучання ў 16—17 год ісці на самастойную работу па спецыяльнасці?

## НЯВОЛЬНІКІ ЭГАІЗМУ

Усё болей у нашым кіно набірае сілы чулліва-спекулятыўная тэндэнцыя выводзіць на экран дзяцей. Чым меншы ўзрост, тым большы эфект уздзеяння на гледача: ах, як іграе, як іграе — сапраўдны артыст!

Сцэнарысты і рэжысёры ўцягваюць дзяцей падчас у самыя складаныя псіхалагічныя дачыненні паміж дарослымі, у драматычныя і нават трагічныя падзеі сюжэта, вымушаючы, вымуштроўваючы, выдрэсіроўваючы іх плакаць, рыдаць, калаціцца ад страху, нема крычаць і г. д.

Што ж гэта — мастацтва ці маральная жорсткасць да чулай, наіўна-даверлівай дзіцячай душы, якую, няхай сабе адну-адзіную з мільёнаў, мы шукаем, выбіраем у якасці ахвяры, жывой ахвяры на алтар мастацтва, каб тыя ж мільёны, гледзячы, як на іх вачах мучаюць, гвалтуюць кволае стварэнне, па-дурному захапляліся, а то і зайздросцілі: вось, маўляў, шчаслівчык, будучая зорка! Што ж, ёсць лічаныя прыклады, як некаторыя з пялёнак трапілі ў славутасці, але ж большасці ніхто не гарантуе зорнага лёсу, а вось што многім дзеткам надоўга траўміруецца жыццё, нармальныя адносіны з дарослымі, дома, у школе, у асяроддзі сваіх сяброў — факт відавочны.

**Ці не занадта мы перабіраем меру, вымагаючы так званай псіхалагічнай праўды ў маленькіх нявольнікаў мастацтва, паводзіны і перажыванні якіх вымяраем уяўленнямі і эгаізмам дарослых?**

**А яшчэ ж ёсць і другая, значна большая катэгорыя шчаслівых нявольнікаў сярод нашых дзяцей, якіх мы, дарослыя, па сваім эгаістычным праве выбіраем для пышных урачыстасцей, парадаў, свят і падзей. Гэта так званыя павіншавальнікі, вітальшчыкі і рапартавальшчыкі. Тое, што для многіх з іх гэтыя абавязкі зрабіліся звычайнымі, адпрацаванымі, адштампаванымі, добра відаць па іх, не ўласцівай дзецям, самаўпэўненасці, самалюбаванні, адчуванні перавагі не толькі над сваімі аднагодкамі. Дзіва што, увайшоўшы ў смак выключнасці ролі, калі пры з'яўленні іх, прадстаўнікоў высокай місіі, на ногі падымаецца ўся зала і авацыямі сустракае іх, як незвычайных герояў-пераможцаў, цяжка не паверыць у сваю выключнасць.**

**Але гэта толькі для нявопытнага навічка. Чым болей набываецца вопыт, тым цвярозей «кадравы» спецыяліст-павіншавальнік узбагачаецца ісцінамі, для спасціжэння якіх вялікіх намаганняў не трэба: галоўнае — голасна, упэўнена, прыгожа рапартаваць. Пра што, пра якія дасягненні — не твой клопат. Дзеля гэтага ёсць дарослыя «спецыялісты», што складаюць рапарты нават у вершах. Дарослыя дзядзі і цёці нават могуць дазволіць сабе і такую магчымасць, паколькі вуснамі дзіцяці «глаголет истина», пры дапамозе дзяцей звесці паміж сабой ведамасныя, службовыя рахункі, «крытыкнуць» дзядзяў, якія правінаваціліся ў нечым перад іншымі, вышэйстаячымі дзядзямі або цёцямі, і гэта заўсёды выклікае захапленне аўдыторыі: во даюць дзеці, «глаголет истина»!**

Так дзіця становіцца не толькі забаўкай, а падчас і даволі незайздросным сродкам у нашых руках. У дадзеным выпадку яму не лезуць у душу рэжысёры, не патрабуюць ад яго слёз, разлічаных на расчульванне публікі, але не менш небяспечныя і цырымоніі, што дамагаюцца ад яго весяліць і пацяшаць нас забавамі, якія мы самі прыдумалі дзеля ўласнага задавальнення.

У дзяржаўных маштабах мы пільна ахоўваем дзяцей ад фізічнай эксплуатацыі. Болей чуйна і пранікліва трэба змагацца супраць эксплуатацыі дзіцячай душэўнай даверлівасці нам, неразумным бацькам і выхавацелям.

## КОНКУРС КІНАЗОРАК

Легкадумнасць уяўлення аб прэстыжнасці далучэння дзяцей ужо з самага малку да выбару прафесіі паэта, мастака, музыканта, акцёра ў апошні час становіцца ўсё болей прыкметнай.

Нядаўна я быў сведкам, як у дні навагодніх канікулаў маладыя мамы і бабкі, яшчэ ў поўнай сіле, з дзецьмі дзетсадаўскага і малодшага ўзросту літаральна прыступам бралі кінастудыю «Беларусьфільм». Аблога доўжылася цэлы тыдзень. Чаго ж дамагаліся ўдзельнікі штурму? Справа ў тым, што рэжысёр, які ўзяўся ставіць дзіцячы фільм, каб не рабіць сабе лішняга клопату — хадзіць, ездзіць, шукаць «артыстаў», кінуў кліч паўтарамільённаму гораду праз газету «Вячэрні Мінск»: вядзіце, нясіце дзяцей вашых!

**Што рабілася на студыі — не цяжка сабе ўявіць. Прагнасць славы завалодала дарослымі настолькі, што яны нават забыліся, каго ўцягваюць у гэтую азартную гульню.**

**Чырвоныя, распараныя ў сваіх раскошных шубах і дублёнках, задыхаючыся ад недахопу паветра ў вестыбюлях і калідорах, кожная, моцна трымаючы за руку свайго «кандыдата», ужо зусім асалавелага, знясіленага, анікому не саступаючы, — стаялі да пераможнага канца!**

**Права на выйгрыш тут дамагаліся з не меншай упартасцю і самаадданасцю, чым калі прыстройвалі гэтых жа дзетак у музычныя школы, у школы фігурнага катання, у школы з англійскай або з французскай мовамі, абы толькі не ў звычайную, нармальную, працоўную школу!**

## ПЕРШЫ ВЕРШ

**Малая дзяўчынка склала лёгка, радасна, без усякіх творчых пакут свой першы верш— чатыры радкі з чатырох слоў і ўсе зарыфмаваныя:**

**Кашку**
**варыць,**
**Машку**
**карміць.**

Па сваёй непасрэднасці і натуральнасці — геніяльна! Я куды ў большым захапленні ад чатырохрадкоўя Машкі, якой год і пяць месяцаў, чым ад васьмігадовай паэтэсы з Ялты, вершы якой з прадмовай вядомых літаратараў друкуюцца ў многіх газетах і часопісах, паспелі ўжо выйсці кніжкамі ў нас і за мяжой. Юную паэтэсу паказвалі ўсёй краіне па тэлебачанні. Да яе табунамі водзяць цікаўных разявак. Вакол дзяўчынкі, як вакол незвычайнага дзіва, утварылася атмасфера ледзь не ўсеагульнага ажыятажу. Яе возяць з вядомымі паэтамі на выступленні, паказвалі ў тэлестудыі Астанкіна. Усесаюзная фірма грампласцінак запісала больш за пяцьдзесят вершаў у выкананні самой дзяўчынкі. Так і хочацца закрычаць на ўвесь голас: што вы робіце? Даўно ж вядома, што амаль кожнае дзіця ў такім узросце — геніяльнае. Яшчэ не маючы ўласнага ні жыццёвага, ні душэўнага вопыту, яно ўжо здольна імітаваць думкі і пачуцці дарослых, а ў слоўнай творчасці пераймаць нават дакладную рытмічную і сінтаксічную вершаваную структуру.

У гэтым не цяжка пераканацца, слухаючы, як яна чытае, ужо выбраўшы сабе куміраў для пераймання. Свайго, натуральнага, уласцівага ўзросту, самому, нарэшце, маленству, нічога няма.

Бяда, ой бяда, калі да так званага вундэркінізму адразу ж прымешваецца сенсацыйнасць і такое сентыментальна-чулліваe мецэнацтва. Якім усё гэта цяжарам кладзецца на кволыя плечыкі падчас, можа, і сапраўднага таленту!

**Няма, бадай, дарослага чалавека, які не лічыў бы дзіцячую літаратуру важным сродкам пазнання свету і выхавання. Тым не менш, на практыцы атрымліваецца так, што менавіта гэтая дзялянка нашай літаратуры аказваецца найменш урobленай. Асабліва мала здабыткаў і імён у жанры прозы. Атрад беларускіх пісьменнікаў, якія пішуць для дзяцей, слаба папаўняецца маладымі талентамі. Большасць рэспубліканскіх выданняў зусім не змяшчаюць на сваіх старонках твораў для дзяцей. У друку не вядзецца сур'ёзнай гаворкі пра ўзровень кніг, якія выдаюцца для маленькіх.**

**Прапануем увазе чытачоў першую спробу крытычнага пяра — артыкул А. Бадака, у якім аглядаюцца мінулагоднія паэтычныя зборнікі выдавецтва «Юнацтва», развагі маладога крытыка С. Кавалёва пра стан сучаснай літаратурнай казкі і іншыя матэрыялы.**

# КАЛІ ЗАНІЖАНЫ КРЫТЭРЫІ...

**Алесь БАДАК**

Крытычная думка, то задзірыста, то асцярожна даказваючы сваё права ўплываць на літаратурны працэс, тым не менш абыходзіць увагай літаратуру для дзяцей. Варта пагартаць хаця б і леташнія падшыўкі нашых газет і часопісаў, каб упэўніцца ў гэтым. Наўрад ці такое маўчанне на карысць самой крытыцы, і ўжо ж, вядома, не на карысць дзіцячай літаратуры.

Больш за дваццаць гадоў назад, у чэрвені 1965 года, «Літаратура і мастацтва» распачала на сваіх старонках вялікую дыскусію аб стане літаратуры, адрасаванай дзецям. У ходзе гаворкі было змешчана інтэрв'ю з Янкам Маўрам, які, між іншым, сказаў: «Дзякуй богу... што дажыў я да такога часу, калі літаратуры для дзяцей удзяляюць такую ўвагу — нават наладжваюць спецыяльную дыскусію... Хаця, шчыра кажучы, лепш было б, каб гаворка аб літаратуры для дзяцей вялася заўсёды, а не толькі ў часе дыскусіі».

Як бачым, і дваццаць гадоў назад дзіцячую літаратуру, па словах вядомага пісьменніка, не дужа песціла сваёй увагай крытыка. Дарэчы, пагартаўшы «ЛіМ» таго часу, прыходзіш да сумнай высновы, што анатацыі і рэцэнзіі на дзіцячыя кніжкі тады змяшчаліся значна часцей, чым зараз.

Адзначаючы пэўныя здабыткі ў паэзіі для юных чытачоў (слухачоў), удзельнікі дыскусіі разам з тым гаварылі і пра тое, што ў ёй «засілле пейзажаў, рытмічная аднастайнасць і яўна недастатковая колькасць сатырычных і гумарыстычных вершаў», «схематызм, прамалінейнасць» (Э. Гурэвіч), «аднастайнасць паэтычнай формы, шаблоннасць мастацкіх сродкаў, вузкасць тэматыкі» (І. Муравейка), «зарыфмаваная канстатацыя агульнавядомага» (У. Жыжэнка). Бачачы прычыны гэтых недахопаў у заніжэнні крытэрыяў, у тым, што мала цікавіцца дзіцячай літаратурай наша крытыка, пісьменнікі, крытыкі і проста чытачы газеты, людзі самых розных узростаў і прафесій сыходзіліся ў сваіх выступленнях на тым, што творы неабходна друкаваць, толькі прапусціўшы іх «праз фільтр патрабавальнасці» (С. Марчанка).

Што ж вызначае воблік нашай сённяшняй паэзіі, адрасаванай самым маленькім?

Давайце пачытаем кніжкі, якія выпусціла нядаўна выдавецтва «Юнацтва»: «Залаты вулей» Міколы Янчанкі, «Сцяблінку» Пятра Прыходзькі, «Незвычайны карагод» Ніны Галіноўскай, «Салодкі лядзяш» Міколы Маляўкі, «Чмялёву гушкалку» Пятра Сушко і «Зорачкі ясныя» Сяргея Новіка-Пеюна.

У сваіх вершах М. Янчанка стараецца пранікнуць у дзіцячы свет, зразумець яго клопаты і праблемы. Паэт імкнецца весці размову з чытачом на роўных, многія творы напісаны ад першай асобы, быццам самі дзеці апавядаюць. І ўсё ж: калі б аўтар болей думаў пра сваіх маленькіх чытачоў, то відаць, не спяшаўся б здаваць рукапіс кніжкі ў выдавецтва. Інакш як растлумачыць, што побач з цікавымі творамі «Кот Максім», «Пра Шпачка і Варону» там аказаліся і неабавязковыя, у прыватнасці: «Па чарніцы», «Кошык радасці», «Арэхі», «Каравай».

**Мы сягоння васільні**
**У полі не збіраем,**
**Падбіраем каласкі —**
**Промні падбіраем.**

**Пройдзем поле з краю ў край,**
**Каласкі падымем,**
**Свой пшанічны каравай**
**Паднясём Радзіме.**
**(«Каравай»)**

Няхай даруе М. Янчанка, але нешта падобнае друкуюць у «Піянеры Беларусі» і «Бярозцы» школьнікі. Прастата, даходлівасць — яшчэ не сведчанне якасці дзіцячага твора, актуальнасць тэмы — гэтаксама.

**Затрашчала ў лесе штосьць.**
**Напалохаўся Савось**
**І сабе жадае сам:**
**—Хай бы то была ліса.**
**Я не певень, і мяне**
**Ліска, пэўна, не кране,—**

так пачынаецца верш «Палахлівы Савось». Далей хлопчык жадае, каб то быў дзік альбо мядзведзь, бо:

**Дзік не прынясе бяды:**
**Дзіку б толькі жалуды.**
**І мядзведзь не кіне ў рот(?):**
**Вельмі ласы ён на мёд.**

Нарэшце мы даведваемся, што на палянку скокнуў заяц.

**Ахапіў хлапца адчай,**
**Бо галоўка і качан,**
**Як дзве кропелькі вады:**
**— Ну, чакай цяпер бяды!**

Пакінем на сумленні аўтара радок «мядзведзь не кіне ў рот», бо справа не столькі ў ім, колькі ў самой задуме верша. Цяжка паверыць, што маленькаму Савосю было страшней спаткацца з зайцам, чым з тым жа мядзведзем ці дзіком. Зразумела, што аўтар тут хацеў пажартаваць, але жарт атрымаўся надуманы і недарэчны.

У кнізе шмат непатрэбных паўтораў: «Збіраю, збіраю, збіраю, збіраю суніцы ў бары» («Па суніцы»), «Сямейка, сямейка, сямейка — па тры, па чатыры, па пяць», «Арэхі, арэхі, арэхі, вас бачу праз гэтулькі год, вы — рэха, вы — рэха, вы — рэха, вы — рэха дзяцінства майго!» («Арэхі») і г.д.

Мнагавата для невялічкага зборніка вершаў пра грыбы і ягады («Па суніцы», «Па маліну», «Кошык радасці», «Па чарніцы»), да таго ж яны напісаны суха і рацыяналістычна.

Пра тое, што М. Янчанка можа пісаць займальна, гавораць лепшыя вершы кніжкі: «Пра ката Вурката», «Саракаsuccessor», «Пачастунак». Іх магло быць значна болей, калі б, паўтараю, аўтар не спяшаўся з кніжкай, больш сур'ёзна адносіўся да шліфоўкі кожнага твора. Тады б не было і прыблізнай рыфмы: «ярчэй— рацэ», «сваё — сяло», «пчала — падстаўляй».

П. Прыходзька імкнецца раскрыць дзецям хараство роднага краю («Любы мне — травінкі летам, а зімой — сняжынкі. Рассыпаюцца над светам росныя іскрынкі... Родны кут люблю ўсім сэрцам, ён — мая радзіма»), далучыць іх да тых праблем, якія зараз хвалююць усё чалавецтва («Не малюю хмару злую, што плыве над нівай. Я жыццё сваё малюю фарбаю шчаслівай»), выхаваць любоў да працы («Мы з кожнага коласа дбайна бяром жменяй зерне»). Праўда, больш цікавымі атрымаліся тыя вершы, у якіх паэт і сур'ёзныя, і «дарослыя» тэмы раскрывае праз вобразы, адпаведныя дзіцячаму светаўспрыманню. Напэўна, верш «Слаўны горад Сан-Мурашка», у якім аўтар расказаў пра тое, як бяскрыўдныя працавітыя мурашы абаранялі свой горад ад жукоў, хутчэй спадабаецца малышам, чым вершы «Нашым дзядам» і «Я малюю», хоць і важныя па тэме, але пазбаўленыя свежасці і фантазіі.

**Маляваць я сцяг умею**
**Над зямным прасцягам,**
**Бо Радзіма ўся квітнее**
**Пад чырвоным сцягам,—**

гучыць, згадзіцеся, дэкламацыйна. Напэўна, цяжкавата будуць успрымацца дашкольнікамі радкі накшталт: «Свет увесь збаўлялі — знаем — ад крывавай, злой чумы», альбо «і з вайны сарваўшы каску».

У вершы «Кнопа» сустракаем: «Мае злосць на караедаў, што пілуюць дрэвы, на жукоў на дармаедаў...» Няўжо і сапраўды такі разумны сабачка? Далей пра таго ж сабачку сказана, што ён лае «І на злодзеяў, якія свет самоцяць белы...». Дарэчы, слова «сабачка» ў гэтым вершы П. Прыходзька ўжывае ў жаночым родзе, што супярэчыць правілам граматыкі.

Няўдала пачынаецца верш «Лясны манцёр»: «Бор навёў на птушак жах: сапсаваўся

# АД «КАЗАК ЖЫЦЦЯ» ДА ЖЫЦЦЯ БЕЗ КАЗАК

**Сяргей КАВАЛЁЎ**

Творамі Цёткі, Коласа, Багдановіча, Бядулі пачыналася беларуская літаратурная казка. Шмат у чым яшчэ несамастойная, пераймальна-фальклорная, яна мела перад сабой мэту агульнакультурную, агульнанацыянальную: так важна было даць маленькаму чытачу кніжку на роднай мове, абудзіць у ім іскрынку самасвядомасці.

Маючы багатыя фальклорныя крыніцы і такія творы, як «Казкі жыцця» Якуба Коласа, беларуская літаратурная казка магла разлічваць калі не на паўтарэнне «скандынаўскага феномена», калі не на з'яўленне феномена славянскага, то ва ўсякім разе на плённае, гарманічнае развіццё сярод іншых жанраў беларускай літаратуры.

І вось замест гэтага мы вымушаны сёння са здзіўленнем канстатаваць відавочны заняпад гэтага жанру ў нашай прозе, а хутчэй — абсалютную неразвітасць, эмбрыянальнасць літаратурнай казкі.

Не будзем наракаць, што ў нас няма ніводнага аўтара на ўзроўні такіх сусветна вядомых казачнікаў XX стагоддзя, як Лагерлёф, Ліндгрэн, Янсан, Алеша, Радары, Корчак і іншыя. Хацелася б зірнуць на праблему рэальна, пашукаць шляхоў вырашэння яе. Засмучае тое, што пры невысокіх якасных вартасцях сучасная беларуская літаратурная казка не дасягае сярэдняга агульнасаюзнага ўзроўню нават па колькасных паказчыках. Калі, напрыклад, у Літве ў апошнія дзесяцігоддзі выходзіць у свет прыблізна дзесяць кніжак казак у год, то ў нас — добра калі адна. У той жа Літве разам з А. Лёбітэ, Э. Легутэ, О. Сурвілайтэ, В. Гедра, В. Жылінскайтэ, В. Пяткявічусам да казачнага жанру звярталіся і звяртаюцца такія шырока вядомыя пісьменнікі, як Й. Авіжус, М. Слуцкіс, К. Сая. Гэта сведчыць пра ўвагу сур'ёзных «дарослых» пісьменнікаў да дзіцячай літаратуры, пра ўсведамленне важнасці і неабходнасці казак для развіцця літаратуры, для фарміравання нацыянальнага чытача. А чытач пачынаецца не са школы нават — з першых крокаў па зямлі, з першых прамоўленых слоў.

Мы зараз шмат гаворым і пішам пра страту чытача, гэта праблема надзвычай вострая і актуальная для нашай літаратуры. Разважаем, скардзімся, шукаем выйсця. А выйсце ў адным — чытача трэба не шукаць-гукаць, а выхоўваць. Выхоўваць з дзіцячых год. Гэта добра разумелі класікі нашай літаратуры пачатку стагоддзя, разумелі Змітрок Бядуля і Янка Маўр. Мы ж пакуль што нават не можам прапанаваць маленькаму чытачу добрай сучаснай казкі, якая з усіх твораў дзіцячай літаратуры карыстаецца ў яго найбольшай папулярнасцю, з'яўляецца пачатковым этапам мастацкага асэнсавання свету.

Побач з таленавітымі дзіцячымі пісьменнікамі ў кожнай літаратуры нямала і такіх, якія лічаць дзіцячую літаратуру літаратурай другога, ніжэйшага, гатунку і ператвараюць яе ў звычайную халтуру. Таму, акрамя прыходу ў казачны жанр маладых аўтараў, зараз шмат карысці для развіцця літаратуры прынёс бы зварот да казкі сталых пісьменнікаў, якія, нарэшце, паглыбілі б яе нацыянальны і агульначалавечы змест і ўзбагацілі форму.

У 1975 годзе выйшлі ў свет казкі Уладзіміра Караткевіча. «Чортаў скарб», «Верабей, сава і птушыны суд» разам з казкай «Кацёл з каменьчыкамі», змешчанай у «Хрэстаматыі па беларускай дзіцячай літаратуры» (1984), сталі ўзорамі беларускай літаратурнай казкі. Народнасць іх выявілася ў тэматыцы і ў вобразных рэаліях, аўтарская арыгінальнасць — у самастойным сюжэце і яркім індывідуальным стылі пісьменніка. Шырока выкарыстоўваючы фальклорныя прыёмы, Караткевіч тым не менш узняўся вышэй за распаўсюджаныя ў нас немудрагелістыя пераказы і перапевы фальклорных сюжэтаў. Вось характэрны прыклад стылю і мовы яго казак:

«Чорт пачуў, што нехта ўнізе чмякае ды ліжа. А ён жа ведаў, што ў хаце нікога, акрамя кошкі, няма. І вось нейкая там кошка чмякае ды сапе, і не дае яму, чорту, чужой рэпы спакойна пад'есці.

Развярнуўся ён ды і піхнуў кошку нагой.

— Апсік! Апсік, гадасць такая!

Ну вось. А мядзведзь гэта табе не кошка. І я табе даваць мядзведзю выспятка ніколі не раю.

Пакрыўдзіўся Мішка. Згроб чорта ў ахапак, сцягнуў з прыпечка і давай яго мяць, давай яго прасаваць, давай яго лапамі валтузіць ды калашмаціць...» («Чортаў скарб»).

У гэтым урыўку, як і ў кожнай з трох казак, адчуваецца Караткевіч — з яго гарэзлівасцю, моўнай самавітасцю, гумарам.

Дзве цікавыя кніжкі казак выйшлі ў 1981 годзе: «Сінявочка» Аляксея Дударава і «Як верабейка сябра шукаў» Леаніда Улашчанкі. Гэта сучасныя літаратурныя казкі: дзеянне ў іх адбываецца ў наш час, поўнасцю адсутнічаюць усялякія «чароўныя» атрыбуты, героямі з'яўляюцца звычайныя людзі, жывёлы, рэчы, прадметы і з'явы. Некаторыя казкі зместам блізкія да апавяданняў, у якіх выкарыстоўваецца прыём адухаўлення («Хто галоўны», «Як верабейка сябра шукаў» Л. Улашчанкі, «Мурзік і Піня» А. Дударава). Л. Улашчанку крыху перашкодзіла, праўда, празмерная дыдактычнасць, імкненне не пакінуць у казцы ніякіх цьмяных мясцін. Але ў лепшых казках — «Песня жаўрука», «Чаму бярозка плача», «Акуляры і кіёк» — аўтар стварыў цікавыя запамінальныя вобразы.

Па форме, манеры выкладу, героях і змесце казкі А. Дударава далёкія ад адназначна-спрошчанага пераймання фальклору. У казцы «Нахабнік» заяц тэрарызуе ціхмянага барсука Пшуля, пагражаючы падробленай даведкай на пажоўклым кляновым лісце з пячаткай і подпісам Льва: «Гэты заяц — мой сваяк. Калі захоча — можа з'есці любога. Леў». Маленькае воблачка Пухнацік з аднайменнай казкі, шукаючы сабе брата, знаходзіць рамонкі на схіле скалы, якія пакутуюць ад смагі, і ратуе іх ахвяруючы сабою — «ператвараецца ў лёгкую белую смугу над рамонкамі і ў кропелькі празрыстай расы, што нават у самую спёку блішчыць на пялёстках кветак.

За апошняе дзесяцігоддзе з'явілася, нарэшце, некалькі аповесцей-казак, напрыклад, авантурна-прыгодніцкая казачная аповесць Уладзіміра Ліпскага «Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска».

Зрэдку з'яўляюцца казачныя творы і ў іншых пісьменнікаў. Пэўныя здольнасці бачацца ў зусім маладой аўтаркі Таццяны Курыла, і выдавецтва «Юнацтва» не памылілася, выдаўшы яе кніжачку. Нягледзячы на крыху наіўны сюжэт і паўднёвую экзотыку (аул, вадаспад і г. д.), з цікавасцю чытаецца «Легенда пра песню». Аднак цікавая па задуме казка «Апостраф і мяккі знак», на жаль, заканчваецца там, дзе яна толькі павінна пачацца. Уражвае трагічны фінал «Бімчыка», бо «шчаслівыя» канцоўкі даўно сталі штампам ў творах для дзяцей.

За пасляваенны час у нашай

тэлеграф». Хіба бор напалохаў птушак? Ды і не зусім зразумела, што сабой уяўляе гэты лясны тэлеграф, які дружна рамантуюць птушкі.

Не хапае кніжцы свежых вобразаў, трапных параўнанняў. Чытаеш радкі, у якіх хлопчык звяртаецца да галоднай птушкі: «Не глядзі самотна ў неба, да мяне крыляй бліжэй. Дам яшчэ я сала, хлеба, стане ўміг табе цяплей» — і холадна становіцца ад аўтарскай абыякавасці да таго, што выходзіць у яго з-пад пяра.

Не адзін зборнік для дзяцей выдала Н. Галіноўская. Лепшыя вершы аўтаркі вызначаюцца ўменнем гаварыць з дзецьмі даверліва і цёпла, знаходзіць у будзённых з'явах нешта новае, нечаканае. Ёсць такія вершы і ў новай кніжцы «Незвычайны карагод»:

**Коцік-варкоцік**
**Лёг на жывоцік.**
**Лапкі пад вушка —**
**Не трэба падушка.**

**(«Коцік»)**

Альбо:

**Абяцала Света Валі:**
**— Падару табе каралі.**
**Гаварыла Валя Свеце:**
**— Кветак дам табе букецік.**
**Абяцалі-гаварылі,**
**Ды нічога не зрабілі.**

**(«Абяцанкі-падманкі»)**

Цікавымі атрымаліся вершы «Вецер-жартаўнік», «Не пахвалілі!», «Дрывасек». Тут і фантазія, і гумар, і лёгкі сум.

Але, захапіўшыся, паэтэса час ад часу фальшывіць, падробліваецца пад дзіця, пад яго мову і пачуцці. Так здарылася, напрыклад, у вершах «Кракадзіл Гена», «Бусел прынёс», «Лясная казка».

У вершы «Магазін на градках» ідзе доўгі і нудны пералік гародніны, якая расце каля хаты. Канец жа падобны на стомлены выдых: «Багаты магазін— наш агарод!» Не выратоўвае і «ажыўленне» гародніны: «Выглядваюць з-пад лісця агуркі», «А бручка з рэдзькай шэпчуцца ўвесь час...», «Прыемным пахам дыхае ўкроп»...

Шмат у кніжцы чатырохрадкоўяў, але большасць з іх пазбаўлены мастацкай непаўторнасці.

Чытаю цудоўна аформленую кніжачку М. Маляўкі «Салодкі лядзяш». (Трэба сказаць, што ўсе названыя кнігі вызначаюцца высокім афарміцельскім густам). Сярод іншых яна адметная большай чуйнасцю да прыкмет сучаснасці. Трэба толькі вітаць імкненне М. Маляўкі паказаць жыццё сучаснага дзіцяці ва ўсёй яго разнастайнасці, не ідэалізуючы і не збіваючыся на голы дыдактызм. А менавіта гэта вызначае лепшыя вершы яго новага зборніка: «Ягаднік», «Дражнілка», «Прыгавор», «Заклічка», «Грыбніца». У іх усё натуральна, жыццёва. Маленькія героі вершаў і сумуюць, і смяюцца, і ў бойку кідаюцца, і спрачаюцца, і плачуць.

Праўда, насцярожвае, што, знайшоўшы цікавы сюжэт, аўтар не дужа клапоціцца пра яго паэтычную «вопратку», свежасць метафары, задавальняецца выпадковай рыфмай — маўляў, сюжэт выцягне. Радкі нярэдка здаюцца каструбаватымі і нязграбнымі: «Сястрычка задала задачу: крычыць, заходзіцца ад плачу», «Выбіў мяч някепска — ігракам на ход».

Цікава задумаў сваю кніжку П. Сушко. Вершы чытаюцца, як адно цэласнае апавяданне, дапаўняючы адзін аднаго. Іх галоўны герой Ясь прыехаў са сталіцы ў вёску да свайго дзядулі. Аб прыгодах, адкрыццях, якія там зрабіў для сябе хлапчук, і расказвае кніжка «Чмялёва гушкалка».

Але не ўсё ў ёй раўназначна. Там, дзе паэт не абмяжоўваецца толькі канстатацыяй фактаў, дабаўляе фантазіі і гумару, вершы атрымліваюцца запамінальнымі, выклікаюць цікавасць. Напрыклад:

**Ясь і Стась**
**З вясёлым смехам**
**Беглі з мехам**
**Па арэхі.**
**Апярэдзіла**
**Іх рэха,**
**Папярэдзіла**
**Арэхі.**
**Пад лісточкі,**
**Як пад стрэшкі,**
**Пахаваліся**
**Арэшкі.**

**(«Па арэхі»)**

Тое ж можна сказаць пра вершы «Гаварлівыя гусяняткі», «Казка пра казла», «На сенажаці», «Чмялёва гушкалка». І якраз фантазіі, навізны не хапае вершам «Ясь-агароднік», «Дзіва ў шапцы», «Сом». Вось адзін з іх, «Ясь-агароднік»:

**Ранкам Ясь пасля зарадкі**
**Паліваў з дзядулем**
**Градкі,**
**Каб шпарчэй**
**Раслі ў бабулі**
**Агурочкі**
**І цыбуля.**

Вось і ўвесь верш!

У вершы «Прыгоды курачкі Чубаткі» чытаем:

**Пра бабульчыну Чубатку**
**Міхасю і Вераніцы**
**Расказаў**
**Пасля заняткаў**
**Ясь,**
**Вярнуўшыся ў сталіцу...**

І далей:

**«Разумееш,**
**Мой ты братка...»**

Чаму «мой ты братка», калі расказваў дваім? Цяжка паверыць, што, калі прапала Чубатка, то пра гэтае здарэнне «то жартоўна, то сур'ёзна так між працай рана, позна гаманіла ўсё сяло...» Няўжо здарэнне такое неверагоднае?

Убачыла свет летась і кніжка С. Новіка-Пеюна «Зорачкі ясныя». Незразумела, чаму ні аўтар, ні рэдактары ў пачатку кнігі не пазначылі, што яе складаюць творы, напісаныя ў 30—40-ыя гады. Бо, хоць і нельга сказаць, што тэмы іх зараз устарэлі, самі вершы нічога новага сучаснаму чытачу не нясуць. З другога боку, яны амаль нічога не расказваюць і пра той час, у які ствараліся (ці не гэта было прычынай, каб не ўказваць гады іх напісання?). Таму радкі, накшталт, «У паветры зжоўклы ліст кружыцца дукатам», «У кайданы закавала яе (рэчку. — **А. Б.**) дзедава рука», «І з кужэльненькае торбы кніжачку вымае» і іншыя выклікаюць недаўменне.

У вершы «Музыка вясняная», якім адкрываецца зборнік, аўтар звяртаецца да сваіх маленькіх чытачоў:

**І вы, дзеткі, родныя,**
**У цудоўны май**
**Песняю чароўнаю**
**Слаўце родны край!**

Услаўленне роднага краю, яго прыгажосці — галоўная тэма зборніка. Тон яго захоплены, замілаваны, але кнігу псуе рытмічная і вобразная аднастайнасць, аголеная дыдактыка. Вершы перапоўнены памяншальна - ласкальнымі формамі («краскі, як вясёлачкі», «месячык беленькі», «жабкі рухлівыя», «белага сняжочку», «цікавенькую кніжку», «залатыя пчолачкі» і г.д.), сустракаюцца сэнсавыя і стылявыя недакладнасці: «Летняя ночка, як маці, калыша стомлены працай народ», «Сіні пах разносіць вакол саду бэз», «Зарадзіў нішто садок яблыкаў ды грушаў!» і г.д.

Як бачым, адны і тыя ж недахопы, у большай ці меншай ступені, характэрны для ўсіх разгледжаных кніжак. А калі ўспомніць пачатак артыкула, то можна гаварыць, што недахопы тыя ж, як і дваццаць гадоў назад. Узнікае пытанне: а ці чытаюць аўтары што-небудзь, акрамя адзін аднаго? Сюжэтаў і вобразаў яны асабліва не шукаюць. Амаль у кожным зборніку ахвотна эксплуатуецца вобраз галодных птушак, якіх кормяць спагадлівыя дзеці. Так, герой верша М. Янчанкі гаворыць:

**Сам зрабіў і сам прыбіў**
**Ля акенца скрыначку.**
**Круп насыпаў, пакрышыў**
**Хлебную скарыначку.**

А гэта ўжо С. Новік-Пяюн:

**Для крылатых пеюноў**
**Снедание рыхтую,**
**Верабейчыкаў-сяброў**
**Чым магу частую.**

І ў другім вершы:

**Мілым птушачкам я рад,**
**Дам ім прыгаршчы зярнят.**
**Хай шчабечуць пад акном,**
**Покуль зноў вясны прыжджом.**

Некалькі вершаў прысвечана жніву, але аўтары чамусьці стараюцца не выходзіць за рамкі, якія можна прыблізна пазначыць радкамі П. Прыходзькі: «Мы з кожнага коласа дбайна бяром жменяй зерне».

Затое вальней адчуваюць сябе паэты ў паказе грыбной і ягаднай тэмы, ды і тут нярэдка не столькі дапаўняюць, колькі перапяваюць адзін аднаго. Падчас ствараецца ўражанне, што аўтары выносяць на суд чытачоў чарнавыя варыянты сваіх твораў, менш за ўсё дбаючы пра чытацкі суд.

Я далёкі ад думкі, што ў нас няма дзіцячай паэзіі. Аднак крытэрыі паэзіі для дзяцей у нас недаравальна заніжаны, і гэта дазваляе выдавецтву друкаваць ці не ўсё, што прапаноўваецца.

Дарэчы, некалькі гадоў назад з прыемнасцю чытаў рукапісы дзіцячых кніжак А. Мінкіна і С. Сокалава, маладых здольных паэтаў, зацікаўленых развіццём нашай літаратуры. Толькі вось кніжкі іх пакуль што так і не выйшлі.

літаратуры з'явілася больш за дзесяць казачных празаічных кніг, але толькі частка іх заслугоўвае сур'ёзнай гаворкі. Таму, закранаючы гэтую тэму, прыходзіцца больш разважаць пра тое, чаго няма і што трэба зрабіць, чым пра тое, што ўжо зроблена.

Няма казак гістарычных, дзе б у адпаведных формах маленькага чытача знаёмілі з падзеямі мінулага, дзеянне якіх адбывалася б, напрыклад, у сярэдневяковым горадзе, і княжаскім замку. У дзяцей не павінна складвацца ўяўленне пра шматвяковую гісторыю свайго краю ў вобразах толькі гаротнага селяніна і вусатага пана з бізуном.

Звычайна ж дзеянне нашых казак адбываецца ў нейкім умоўным фальклорным мінулым, занадта казачным і занадта бутафорна-аднолькавым.

Няма ў нашай сучаснай літаратуры філасофскай казкі, казкі-прытчы, як няма і псіхалагічнай казкі, казкі-пароды. Тым самым не выхоўваецца інтэлектуальны і эстэтычны ўзровень будучага дарослага чытача (дакладней, ён выхоўваецца іншымі літаратурамі, а адначасова фарміруецца і пераважная прыхільнасць да іх). Любімая казка амерыканскіх дзяцей «Чараўнік Оз» Ф. Баума пабудавана на некаторых палажэннях філасофіі І. Канта, у кнізе Р. Кіплінга «Маўглі» адбіліся сацыяльна-філасофскія ўяўленні і эксперыменты аўтара, А. Талстой у «Залатым ключыку» стварыў пародыю на рускі сімвалізм і на тэатр Меерхольда, сучасны літоўскі пісьменнік В. Пяткявічус стварыў своеасаблівую мікрамадэль сусвету ў аповесці-казцы «Гліняны Моцеюс — кароль людзей». Мы ж пакуль што не пераадолелі вузкафункцыянальную градацыю казак на пэўныя ўзросты маленькіх чытачоў і не маем універсальных казак, у якіх бы маленькі чытач бачыў сваё, а дарослы сваё. «Не прызнаю дзіцячую літаратуру адасоблена ад усёй астатняй літаратуры. Не люблю тую, якая кленчыць прад дзецьмі, сюсюкае, ласкава і бездапаможна ўпрошвае іх. Жыццё і фантазія — вось крыніцы дзіцячай літаратуры, а не педагагічныя правілы», — сказаў калісьці М. Слуцкіс.

Ды што там філасофія, калі звычайная авантурна-прыгодніцкая казка, казка-вандраванне ў выглядзе аповесці ці цыкла аповесцей, накшталт твораў А. Волкава, толькі-толькі пачынае ў нас нясмела і не заўсёды ўдала з'яўляцца. А гэта ж, трэба прызнаць, самы папулярны від казкі ў маленькага чытача.

Няма пакуль у беларускіх дзяцей свайго любімага казачнага героя, агульнавядомага і нацыянальна-арыгінальнага, як, напрыклад, Аліса і Мэры Попінс у англічан, Чыпаліна ў італьянцаў, Мумі-троль у фінаў, кароль Мацюсь у палякаў і г. д.

Куды лепш выглядае справа з перакладамі, і гэта хоць неяк ратуе становішча. Толькі ў апошняе дзесяцігоддзе выдавецтвы «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва» пазнаёмілі маленькага чытача з казкамі Уайльда, Кіплінга, Корчака, Канапніцкай, Брэзана, Прокапа, Саі, Леўсціка, Лакатніка, Апрылава, Радзічкава, Саксэ, Баленэ і іншых пісьменнікаў, з невялічкай анталогіяй англійскіх літаратурных казак. Увогуле, перакладных твораў пакуль што больш, чым арыгінальных.

Хтосьці добра назваў праблемы дзіцячай літаратуры «недзіцячымі праблемамі». Сапраўды, гэта так, бо ствараюць іх— дарослыя, і вырашаць іх — таксама дарослым.

# НЕЎМІРУЧАЯ КОШКА

Трымаю ў руках кніжку «Лясныя хітруны» З. Бяспалага (выдавецтва «Юнацтва», 1986). Кніжка саліднага памеру і, дарэчы, выдатна выдадзена—у цвёрдай вокладцы, з пазалочанымі літарамі. Але, як кажуць, хата багата не вугламі, а пірагамі. Зазірнём за прыгожую вокладку, што там? Я зазірнула і засмуцілася. Чаму?

Кніжка складаецца з кароценькіх замалёвак у некалькі сказаў і вялізных апавяданняў-аповесцей. Ёсць тут і раздзел казак.

Агульны недахоп твораў, за выключэннем хіба што казак,— нудная апісальнасць. Апавяданне «Пінь-пінька з белай ніткай» займае ў кніжцы 20 старонак, «Зося-беласпінка»—36, «Гаспадыня старога акопа»— 28 старонак. Усе гэтыя вялізныя апавяданні напісаны па адным шаблоне—бачу, назіраю, пішу.

Вось прыклады. Герой апавядання «Пухавічкі-белахвосцікі» бярэ трох малых зайчанят, вязе ў гарадскую кватэру і даглядае іх. Малыя растуць сабе, сілы набіраюцца. Што толькі вушастыя гарэзы ні вырабляюць у кватэры! Абутак параскідваюць, слоік з алеем скінуць з акна, самі выпацкаюцца і ўсё ў кватэры выпацкаюць. Уначы спаць не даюць ні гаспадарам, ні суседзям у доме: барабаняць лапамі па шафе, каструльках, газавай пліце, шыбах. Вушастыя пагрызлі ўсю мэблю і іншыя драўляныя рэчы. Лясныя палоннікі так даліся гаспадарам, што тыя не ведалі, як пазбавіцца ад іх. І аб усіх гэтых штукарствах даўгавухіх аўтар падрабязна апісвае ажно на 18 старонках. Дзеля чаго апавяданне пісалася, што З. Бяспалы хацеў сказаць юнаму чытачу—незразумела. Калі меў мэту паведаміць пра жыццё зайцоў, то гэта можна было б зрабіць і не забіраючы іх з лесу—з натуральных умоў жыцця.

У апавяданні «Начны вандроўнік» шмат жорсткага. Забіраецца ад бацькоў малы вожык і перавозіцца на агарод —каб шкоднікаў знішчаў. Праз некаторы час бабуля ловіць вожыка і саджае ў жалезную бочку, дзе той галодны марнуецца двое сутак. А робіцца гэта дзеля таго, каб падарыць вожыка ўнуку — які, мы даведваемся, ужо здзекаваўся са шмат якіх жывёлін.

У апавяданні «Дзіўны птах» герой ажно сем дзён прыручаў варону. І вось, калі птушка нарэшце села на стол, ён хапае яе. Праўда, птушка вырываецца, моцна дзеўбануўшы гаспадара ў палец. Вось і ўвесь сюжэт. У замалёўцы «Малая маці» герой наогул разбурае гняздо з птушанятамі. Узнікае пытанне: чаму навучаць гэтыя творы дзяцей? А кніга, дарэчы, адрасавана дзецям малодшага школьнага ўзросту.

У апавяданні «Муся» аўтар расказвае, як гаспадар патапіў малых кацянят, а адно неяк уратавалася і прыйшло дамоў. Гэтае кацяня, стаўшы дарослай кошкай, сваёй драпежнасцю вялікую славу ў вёсцы заваявала. А ў адным партовым горадзе ў гэты час столькі пацукоў развялося, што людзі ніякай рады ім не маглі даць. Нахабныя істоты спусташалі склады, псавалі пабудовы і нават кусалі дзяцей. Вось тады адзін вайсковец саджае славутую Мусю ў самалёт і вязе ў той далёкі горад, каб яна пазбавіла там людзей ад няшчасця. І, як ні дзіўна, «гераіня» спраўляецца са сваімі абавязкамі—знішчае ўсіх пацукоў. Але яшчэ больш дзіўны канец апавядання. Нейкі хлопец без дай прычыны ўдарыў кошку каменем, яна ўпала і больш за тыдзень праляжала пад снегам. А калі ён растаў (прыгрэла сонца), яна... паднялася на ногі і пайшла дамоў. Вось якой неўміручай была Муся!

Мала чытаюць апошнім часам нашы дзеці. Гэта ўсім вядома—і нам, настаўнікам, і бацькам. Часам цяжка бывае заахвоціць каторага вучня, каб ён прачытаў кароткі, цікава напісаны твор. А ў кніжцы «Лясныя хітруны» ажно трыста з лішнім старонак расцягнутай апісальнасці. Колькі ж спатрэбіцца дзіцяці часу, і ці хопіць у яго цярплівасці прачытаць яе?

Трэба думаць, што кніжка, перш чым убачыць свет, прайшла не праз адны рукі. Незразумела, як так здарылася, што ніхто не заўважыў шматлікія недахопы і не падказаў аўтару іх выправіць.

**М. БАРЫСЁНАК,**
**настаўніца.**

г. Беразіно.

**АД РЭДАКЦЫІ. Настаўніца з Беразіно, відавочна, не ведала пра тое, што кніга З. Бяспалага з'яўляецца выбраным — г. зн. у ёй сабрана ўсё лепшае з надрукаванага пісьменнікам раней. Інакш яна здзвілася б яшчэ больш, чаму «ніхто не заўважыў» недахопы і «не падказаў аўтару іх выправіць».**

Святлана БАСУМАТРАВА



## Знак перасцярогі

Здаўна радзілі добра
На Палессі
І каласы, і яблыкі,
І песні.
Чакалі—будзе шчодрым
Тое лета.
І раптам—
Скаланулася планета...

За МАЗам МАЗ вязуць
За тонай тону,
Бо трэба саркафаг
Зрабіць з бетону
На атамаў злавесныя
Мільярды,
Што рвуцца
З-пад разумнае улады.

Ты чуеш
Горкі пах счарнелай былкі?
Бываюць
Непапраўныя памылкі.
А людзі памыляюцца,
Не богі.
Дым быльняговы—
Знак перасцярогі.

На зайздрасць,
Што і ясны дзень
азмрочыць,
На сквапнасць,
Што, як вусень, сэрцы
точыць,
На спрэчкі не істотныя
З суседам,
На дробязныя плёткі
За абедам,
На доўгія і нудныя
Даклады,
Штодзённа-марнатраўныя
нарады,
На рапартаў раздутых
Тэлеграмы
Зрабіць бы саркафаг
Вось гэткі ж самы...

Не лішні
Напамінак чалавеку:
Мы ўсе—на грэбні
Атамнага веку,
На вастрыі, на быстрыні,
На строме.
Быць ладу, быць
Ва ўласным нашым доме!

●

І я кручуся разам
З зямным нястомным шарам,
Змяніўшы рамантычнасць
На строгасць пачуцця.
О не, зусім не проста
На свеце жыць з цяжарам,
Які людзьмі завецца
«Веданнем жыцця».

А ён заўжды са мною,
Няўмольны, як калецтва.
Нікуды не падзенеш
Пякучы гэты боль.
— Пісаць не маеш права
Пра клопат чалавецтва,
Калі забыў, што потам
Даюцца хлеб і соль.

Праблема выжывання
Перад дваццатым векам.
Ну, так патрэбна выжыць.
Важней няма патрэб.
Але ж не проста выжыць—
Застацца ЧАЛАВЕКАМ
І помніць—мазалямі
Даюцца соль і хлеб.

## Бацькоўскі дом

Прывычная
Зімовых святаў рыска—
Марозны пах
Падсіненых гардзін...
Хаўтур нямала бачыў
І радзін,
Бацькоўскі дом,
Дзіцячых мар калыска.

У печы паліць мама,
Носіць вёдры
(Не самае сучаснае
Жытло),
Ды льецца з вокнаў
Роднае святло
І кожнаю маснічынкай
Ты добры.

Выходзіць з моды рэч—
Зніжаем цэны.
Нямоднаму,
Няма табе цаны.
...Як зберагчы
Ад чэрствасці, маны,
Ад нашае міжвольнае
Віны
І ад сусветнай
Ядзернай вайны,
Бацькоўскі дом,
Твае старыя сцены?

## Вуліца Макаёнка

Прайсці,
Не запаволіўшы хады,
Я не магу
Пад гэтаю таблічкай.
Як сонца ўранку
Устае з вады,
Так усплывае з памяці
Аблічча.

Смяяўся
Гэтак шчыра пры жыцці—
Нябожчыкам
Назваць яго няёмка.
І вось цяпер
Даводзіцца ісці
Па вуліцы
Андрэя Макаёнка.

ПРОЗА

# Таццяна Салавей



Міхась ДАНІЛЕНКА

АПАВЯДАННЕ

У АДЗІН з асенніх дзён ехала Таццяна Салавей у абласны цэнтр атрымліваць ордэн. Апранула плюшавы жакет, у якіх звычайна ў Багатай Градзе красавалі ў святочныя дні жанчыны. Гумавыя боцікі, што купіла, калі яшчэ жыла з Іванам, шчыгульненька аблягалі ногі. І ўся яна ў квяцістай цярноўцы была такая шчупленькая, дробная, што выдавала за дарослае дзяўчо, а не жанчыну, якой за трыццаць і якая хапіла ўсяго—і горкага, і салёнага.

Аўтобус каціў шашой. За шыбамі вокан церусіў нудны дождж, які ў іхніх мясцінах называюць мігуч. На душы ў жанчыны было холадна і няўтульна, як і ў тых асенніх палях, што адбягалі назад абапал дарогі. Стыла і зябка было ў Таццянінай душы.

Як нарадзілася Алёнка, зразумела Таня: не зладзілася ў іх з Іванам жыццё. Яшчэ да таго, як стаў хадзіць за статкам, пачаў прыкладвацца муж да шклянкі. Часцяком прыходзіў і няўцямна аглядаў пустымі вачыма сцены пакоя цешчынай хаты, у якой жыў з Таццянай. Спачатку маладыя былі настрыліся будаваць сабе асобны дамок тут, поруч з матчыным селішчам пад высокім развесістым вязам.

— Глядзі сама, дачухна,—гаварыла маці.—На мой розум, дык і тут месца хопіць. Як ладзілі з тваім нябожчыкам бацькам гэтае жытло, дык меркавалі: падрасце ці ты, ці Сёмка,—можа, ад нас і не паедзе. Але ж Сямён—сама ведаеш—сюды не вернецца. А ты з Іванам і жыла б са мною...

Старэйшы Танін брат Сямён каторы ўжо год жыў у Мурманску—працаваў капітанам на рыбалавецкім траўлеры. Узяў жонку з сям'і тамашніх памораў. Двое дзетак у іх гадавалася. Да маці Сямён з Кацярынай заглядвалі рэдка. Затое, калі Сямён прыязджаў у водпуск, дык, не ў прыклад зяцю, не мог пасядзець і хвіліны, каб нешта не ладзіў, перастаўляў, прыбудоўваў. Перасыпаў нанава ўвесь штыкетнік. Зрабіў новыя вароты і калітку з навясным брылькам. Задумаў пад вязам стаўляць альтанку.

— Хай будзе так, як у нас на поўначы,—гаварыў Сямён.—Я і аканіцы змайструю—такія, як у памораў нашых.

— Мой ты сынок,—гаварыла маці, няхай адпачываюць твае рукі—навошта тыя аканіцы? Хто ў нас будзе вечарамі ў пакоі заглядваць? У вёсцы, лічы, засталіся старое ды малое. З маладзейшых вунь толькі Таня з яе Іванам і мадзеюць...

Але маці памылілася. Старшыня калгаса рашыў ля іхняй вёскі ўзвесці новыя кароўнікі—выпасаў навокал хапала,—і цяпер з цэнтральнай сядзібы даярак кожны раз прывозілі машынай. Пачала рабіць і Таццяна даяркай—да таго яна даглядала цялят-гадаванцаў.

Калі Івана прызначылі пастухом, яму выдалі плашч з башлыком, літыя гумовікі, далі каня з рыпучым сядлом. Муж пасвіў кароў удвух з напарнікам—старым Тодарам. Тодар яшчэ спoры быў на ногі, але недачуваў на правае вуха.

— Ты ўжо, Іване, сам ездзі на тым кані,—гаварыў ён Івану.—А я подбегам, подбегам буду за статкам хадзіць. Не бойся: не адаб'ецца якая памаўзапраныра.

А Івану тое і было на руку. Пакуль стары трухаў за каровамі, ён паспяваў на кані адскочыць да крамы. Калі целяпаўся на сваім сядле да кароў, дык прыкметна адтапырваліся кішэні плашча. Часцяком якой удаве то соткі ўзарэ, то дроў прывязе, то бульбу разгоніць. А плата вядома якая—чарка.

Цяпер, калі амаль кожны вечар муж прысоўваўся дадому п'яны, не магло быць і гаворкі будавацца.

— Развялася б ты з ім, дачухна,—неяк пасля чарговай сваркі сказала Таццяне маці.—Глядзі, ці не знойдзеш яшчэ такое золатца. Зірні на сябе: ты ж маладая яшчэ, а ўжо маршчыны ля вачэй з'явіліся. А і Аленка ж падрастае. Які ён ёй бацька? Хоць бы купіў калі пасля палучкі якую цукерку.

Але, вядома, не да цукеркі было. Неяк Тодар хварэў. Кароў пасвіў адзін Іван. Ён як звычайна напіўся, заснуў, а дзве каровы адбіліся ад статка і заваліліся ў стары акоп. Мусіць, доўга раўлі бедныя жывёліны—хацелі, каб выбавілі іх з біды, ды Іван хроп пад капою.

Калі выпадкова мужчыны натрапілі на тых кароў, дык убачылі, што ў іх пераламаныя заднія ногі... Быў суд. Іван пакорліва лыпаў вачыма перад людзьмі. Не апраўдваўся, мармытаў:

— Вінаваты, а як жа. Прыдрамаў трохі—стаміўся вельмі.

— Можа, прыдрамаў таму, што не адну бутэльку апаражніў пад кустамі?—пачуўся з залы нейчы голас.

За кароў, якіх усё ж прырэзалі, вылічвалі з Іванавай зарплаты. Ён пахудзеў, твар пакрыўся густой шчацінай. Муж выбіраў толькі зручны момант, каб адскочыць у мясцовую краму і напіцца. П'яны чапляўся да кожнага стрэчнага, лез біцца, ірваў на сабе пінжак, лаяўся. Прапіў і плашч, і боты, і сядло.

Таццяна афіцыйна развялася з мужам. А неўзабаве таго накіравалі на прымусовае лячэнне. Чула яна, што калі Іван выпісаўся з бальніцы, дык усё ж доўга не пратрымаўся: паздымаў колы са старшынёвага «Масквіча» і прадаў у горадзе. Яго зноў судзілі. Урэшце, як пазней дазналася Таня, у Іванавай радні (іх у тых мясцінах. адкуль быў муж быў родам. звалі «калкамі») пілі і бацька і меншы брат. Можа, у спадчыну перадаецца заклятая хвароба? Якой жа зялёнай і дурной яна была, калі заглядвалася на бравага матроса, якога сустрэла аднойчы ў раённым гарадку, калі прыехала на нараду жывёлаводаў. Тады Іван толькі што дэмабілізаваўся і ўладкаваўся ў сваім калгасе на малакавозе. Не навазіў таго малака. Аднойчы ледзь не перакуліўся гружаны ў кювет,—і шафёрскія правы ў яго забралі...

Злева ад шашы праз мутную плёнку дажджу раптам пасвятлела—радасна зазелянела аксамітам азіміна. Густой шчоткай усходы прасціраліся далёка за гарызонт, дзе з зямлі ўзняліся мітуслівае вараннё і паляцела да бліжніх прысадаў. Шырока крочылі цераз поле мачты электраперадач.

У горадзе Таццяна Салавей спынілася ў Людкі Цукаравай. Некалі яны з Людкай вучыліся ў адным класе, быў час—нават сябравалі. А як закончылі сярэднюю школу, разышліся іх дарогі. Сяброўка скончыла тэхнікум і працавала на маслазаводзе. Муж у яе быў непітушчы, нейкі ціхмяны, быццам у нечым вінаваты. Ён і цяпер цішком падаваў у кухні, абліцаванай прыгожым кафлем («Чэшскі,—нахвалілася Людка,—сама даставала»), то вінегрэт, то парэзаныя на тонкія лустачкі ружовы балык, вяндліну. Людка напоўніла іскрыстым віном крышталёвыя келіхі на цыбатых ножках.

— За сустрэчу, сяброўчка!—сказала яна.—Ты і цяпер ля сваіх цялятак мардуешся?—калі выпілі, запыталася яна.

— Чаму ля цялятак? Кароў даю. Цяпер да нас перавялі частку дойнага статка.

Людка, ацэньваючы позіркам, акінула шчуплую постаць Тані Салавей і без перапынку затараторыла:

— А праўда, што ты свайго Івана вытурыла туды, дзе Макар цялят не ганяе? Правільна зрабіла. Ім толькі дай волю—адразу на шыю сядуць,—яна выразна паглядзела на свайго ціхага, як цень, мужа. Цукараў прыкметна зніякавеў і аж угнуў галаву ў плечы. «Мусіць, нясоладка табе, небарака, жывецца ў гэтых пакоях сярод крышталю і дываноў пад Людчыным абцасам»,—сама сабе адзначыла Таццяна. Яна не сказала сяброўцы, чаго прыехала ў горад. Няхай думае, што Салаўіху, як часта прывычна клікала яна Таню яшчэ з тых часоў, калі разам вучыліся, запрасілі на нейкую нараду.

— А ведаеш што?—раптам загарэлася адной ёй вядомай ідэяй Людка.—Мы цябе выдадзім замуж. Тут сусед над намі жыве—пальчыкі абліжаш. Не п'е, не курыць, добрую кватэру мае.

Таццяна заўважыла, як прыкметна спахмурнеў муж, калі Людка загаварыла пра суседа.

— А што? Зараз пайду і запрашу. Як гэта я не дадумалася раней?—яна пляснула далонямі сябе па лобе.

— Ну, што выдумала?—спалохалася Таццяна.—Куды мне замуж? Апяклася раз на гарачым, дык цяпер буду сто гадоў на халоднае дзьмухаць.

— Не пярэч, сяброўчка. Зараз Мікітавіча паклічу ў госці.

У кажушку,
Відаць з сяла, стары,
Пастукаўшы
Валёнкам аб валёнак,
Бурчыць пад нос,
Чытаючы ўгары:
— Хто ж быў, цікава,
Гэты Макаёнак?

А ён, калі б пачуў,—
Не зазлаваў,
У позірку б схаваў
Гарэзна ўсмешку.
Вось з гэткага ж старога
Змаляваў
Аднойчы ў «Трыбунал»
Свайго Цярэшку.

Мужык вясковы,
Той чытаў не шмат
Разумных кніжак.
Ды ці ён адзіны?
Пад кожнай жа са стрэх
Сялянскіх хат
Жыла навука
Вернасці Радзіме.

— Ідзі, стары,
Купляй, сталічны госць,
Прысмакі, сушкі,
Новыя анучы.
А Макаёнак...
Ён не быў, ён—ёсць.
Ён—наш, палескі.
Ён, браток, жывучы.

## *Памяці Аляксея Васільевіча Пысіна*

Мне аб вайне мінулай
Сняцца сны
Спякотным летам
У бацькоўскай хаце.
Маё жыццё ў сабе
Адчула маці
У мірны дзень,
Праз год пасля вайны.
Ды часта аб вайне
Мне сняцца сны...

А ты прайшоў
З пяхотаю франты.
Нябачныя,
Табе ігралі трубы,
Калі хаваў сяброў
І, сцяўшы зубы,
Зрываў свае
Крывавыя бінты,
Прайшоўшы
Тры суровыя франты.

І муза твая сціплая
Жыла
У радавым,
Не генеральскім чыне
Адным імкненнем—
Паслужыць Айчыне.
Яна не раз
Параненай была,
Але сваіх пазіцый
Не здала.
Калі мая
Нясмелая рука
Падтрымкі прагла
На світанні росным,
Азваўся ты
І стаў мне бацькам хросным
У храме
Вершаванага радка.
І цвёрдасць
Набыла мая рука.

...І зноў мне пра вайну
Прысніўся сон.
Мо чуючы
Апошнюю дарогу,
Ты перадаў мне
Тую сон-трывогу,
З якою шлях далёкі
Мне відзён,
З якою жыць мне
Да апошніх дзён.



**Крыло цішыні.**

Фотаэцюд А. БАЙДАК.

Таня непрыкметна агледзела ў люстры свой сціплы касцюмчык, які апранула, калі збіралася ў горад, нафарбаваныя вусны, просценькую прычоску. Адчула, як прайграе яна поруч з шумнай непаседлівай Людкай. На той быў шыкоўны японскі халат, акаймаваныя нейкім футрам тапачкі. І ўся яна была вылашчаная, выпеставаная, хоць стаў у вітрыну магазіна.

Між тым Людка, не слухаючы Тацяніных пярэчанняў, ужо грукнула абабітымі з двух бакоў дэрмацінам дзвярыма.

— Паляцела птаха,—буркнуў Людчын муж.

За ўвесь час, як тут спынілася Таня, гэта былі бадай ці не першыя словы, якія яна пачула ад Цукарава.

— Вы не крыўдуйце на яе,—папрасіў ён.—Люда і спіць, дык у сне бачыць, як жэніць Пятра Мікітавіча.

— А што гэта за Пятро Мікітавіч? —пацікавілася Таня.

— Зараз убачыце, — па-змоўніцку ўсміхнуўся Цукараў.

І праўда. Не прайшло і некалькі хвілін, як следам за Людкай у пакой зайшоў поўны лысаваты мужчына ў гальштуку і цёмна-сінім касцюме.

— Мы, Пятро Мікітавіч, па-дамашняму, па-суседску,—між тым шчабятала Людка. — Школьная сяброўка прыехала. Слаўная жанчына. Я вось і падумала: чаго гэта вам дваім маладым адзінокім сумаваць?

Таццяна думала, што згарыць ад сораму ад гэтых лёгкадумных Людчыных слоў. Ліха іх ведае, можа, у горадзе так бесцырымонна цяпер знаёмяць? Чытала ж у газетах Салавей, што, як порхаўкі пасля дажджу, паяўляюцца ў горадзе розныя клубы—каму за трыццаць, за сорак. На першы погляд Пятру Мікітавічу даўно падбіралася пад пяцьдзесят, а можа, і больш. І хоць ён і маскіраваў пінжаком, прыкметны жывоцік гарбузом выдаваўся ўперад. Сусед цырымонна пацалаваў тыльны бок шурпатай Таццянінай далоні. Тая ледзь стрымалася, каб не вырваць руку, якую быццам апякло: ніколі не цалавалі ёй рук.

— Таню ордэнам узнагародзілі,—раптам ляпнула Людка.—Ты калі яго, сябровачка, будзеш атрымліваць? Заўтра? Вось і ёсць прычына абмыць. Заадно пабачыш, як жыве наш паважаны Пятро Мікітавіч.

«І хто ёй нашаптаў у вуха?»—здзівілася Таня. Сама яна нават словам не абмовілася, чаго прыехала ў горад. Не гаварыла пра гэта і з яе мужаммаўчуном. Цукараў, як прыйшоў сусед, зноў неяк стушаваўся, стаў непрыкметным.

Пятро Мікітавіч здзіўлена пагледзеў на збянтэжаную Таню, бровы на яго шырокім ілбе папаўзлі ўверх.

— О, — пачціва прагаварыў ён.— Наша паважаная Таццяна Іпатаўна, аказваецца, не проста работніца, а перадавая.

Таню здзівіла, што Пятро Мікітавіч за сталом ніколькі не бянтэжыўся — паводзіў сябе гаспадаром. Відаць, прывык часта бываць у суседзяў у гасцях. Скрылікі вяндліны ён акуратна падчэпліваў відэльцам, смачна пражоўваў, аж прыжмурваў маленькія вочкі. Ад выпітага віна лысіна на макаўцы галавы прыкметна паружавела.

Калі Людчын муж пайшоў праводзіць суседа, тая слала Тані на канапе ў зале і гаварыла:

— Выпадзе ж некаму шчасце на гэтага Мікітавіча, хто накіне на яго вуздэчку. Кватэра, скажу табе, сяброўчка—поўная чаша. Сам на базе служыць.—Яна так і сказала «служыць», а не працуе. А перад Таццянінымі вачыма чамусьці стаяла, як Пятро Мікітавіч пакручваў у руках сярэбраны відэлец і ўсё разглядваў, кім ён выпушчаны...

За акном праносіліся рэдкія машыны. Чуўся часам смех, частыя крокі па тратуары. Таня доўга не магла заснуць—думала пра Алёнку, пра маці. Дачка праз год пойдзе ў школу. Цяжка малой без мужчынскай ласкі. Сама ўвесь час прападае на ферме ля сваіх кароў: нялёгка даюцца Таццяне Салавей рэкордныя надоі. Рукі агрубелі. Хіба ж параўнаеш іх з выпешчанымі Людчынымі, якія бялелі з-пад японскага халата? І сама Таня адчувала, як агрубела яна сярод крыклівых даярак, поруч з глухаватым пастухом Тодарам. Не, ніколі не прывядзе яна Алёнцы другога бацьку. Ды і навошта яна гэтаму лысаватаму, ужо ў гадах, чалавеку, у якога, па словах сяброўкі, «кватэра—поўная чаша...»

●

Наступны дзень быў якраз суботні—выхадны. Калі Таццяна вярнулася з аблвыканкома, дзе ім уручалі ўзнагароды, Людка сустрэла яе з вялікім букетам астраў. Але не гэтыя кветкі абрадавалі яе, а непаддзельная радасць, якую ўбачыла яна ў вачах ціхмянага Людчынага мужа.

— Ад усяго сэрца віншую вас,—паціскаючы руку, гаварыў ён.—Няхай, як кажуць, ён будзе не апошнім у вас.

Таццяну ўразіла, як нясмела, зусім па-дзіцячы гэты чалавек папрасіў яе:

— Можна? Я патрымаю яго на далоні?

І ён асцярожна паклаў на далонь ордэн і ўголас дзівіўся, што ён—такі цяжкі, хоць і маленькі.

— А ты як думаў? За абы-што ордэны не даюць,—быццам гэта яе самую ўзнагародзілі, гаварыла Людка. — Цяжкі, бо даецца не за лёгкую працу.

А потым прыйшоў Пятро Мікітавіч і, цырымонна кланяючыся, прыпаднёс ёй тры гваздзікі.

— Рад, рад за вас, Таццяна Іпатаўна,—гаварыў ён.—Калі не пагрэбуеце, папрашу пазнаёміцца, так сказаць, са святліцай.

Таня аднеквалася. Бачыла, што і Людчын муж не надта ахвоча згаджаецца ісці да суседа ў госці. Але так настойвала сяброўка, што было проста няёмка адмовіцца.

Яны падняліся на восьмы паверх. Як і ў Людкі, у маленькай кватэры Пятра Мікітавіча дзверы былі абабіты з двух бакоў. Паркет аж блішчэў ад лаку. У калідоры ўсе доўга выцíралі падэшвы аб коўрык, а потым разуваліся, насоўвалі тапачкі, якіх тут стаяла некалькі пар.

— Сюды, сюды, даражэнькія, праходзьце,—запрашаў гаспадар.

Перайшлі ў залу. Амаль усю сцяну займала, відаць, дарагая імпартная сценка. У ёй таямніча паблісквалі акуратна расстаўленыя кубкі і сподачкі з сервіза, крыштальная ваза і келіхі. Пасярод пакоя стаяў засланы бялюткім абрусам стол з расстаўленымі талеркамі. Справа ад кожнай ляжалі новенькія нажы і відэльцы.

— Вось у каго трэба вучыцца, як шанаваць сваіх жонак,—павярнулася да мужа Людка.

Той сарамліва адмоўчваўся, а Пятро Мікітавіч запрашаў рассаджвацца і падняць тост за шчаслівы дзень для яго дарагой госці.

— Ужо і дарагой?—паківала перад носам Пятра Мікітавіча Людка.—Ведаем вас: маху ніколі не дасце.

Таццяна пакутліва чырванела. Яна думала, што Пятро Мікітавіч абсячэ не ў меру балбатлівую суседку, але той, здавалася, не звярнуў ніякай увагі на яе падкавырыстыя словы. Дарэмна яна згадзілася ісці ў гэтыя недарэчныя госці. Трэба было зазірнуць ва універмаг: Алёнцы пагледзець зімовае палітэчка. Пятро Мікітавіч галантна падкладваў ёй на талерку тапюсенькія — аж прасвечвалі—скрылі сухой кілбасы, нешта гаварыў пра настойку з журавінаў, якую зрабіў сам.

— Кажуць, вельмі дапамагае ад крывянога ціску,—гаварыў ён. — Мы тут з сябрам—у яго свае «Жыгулі»—кіламетраў за паўсотню ад горада аблюбавалі адну імшарыну. Журавін там процьма. І ведаеце? Выгадна ездзіць на іх. Нават бензін, затрачаны на паездку, апраўдалі...

Калі падняліся з-за стала, а Пятро Мікітавіч пайшоў на кухню гатаваць каву, Людка па-змоўніцку штурханула ў плячо Таню і паказала вялікі палец: не дрэйф, сяброўчка: бачыш—ён раскіс ужо. А Таццяна па прывычцы, як рабіла дома, дастала са стосіка, што стаялі ў сценцы, кнігу, палістала. На вочы трапіўся лісток з нейкімі лічбамі. Паміма волі яна ўмомант акінула яго вачыма і адчула, як пякуча загарэліся шчокі, вушы, шыя. Гатова была праз зямлю праваліцца. Насупраць кожнага радка стаялі лічбы: «Масла 500 грамаў—1 руб. 70 кап.; торт — 3 руб. 70 кап.; кілбаса маскоўская—1 руб. 44 кап...» У самым канцы значыліся... тры гваздзікі. Чуццё падказвала Таццяне Салавей: то былі тыя гваздзікі, якія яна пакінула ў Людчынай кватэры...

Іх потым праводзіў Пятро Мікітавіч. Нешта гаварыў. Галантна дапамагаў абуць яе гумавыя боцікі, пытаўся, калі яна зноў прыедзе да іх у госці. Але Таццяна не чула ніводнага яго слова. Яе быццам аглушыла тое, як адным поглядам акінула рахунак чалавечай скупасці.

...Калі аўтобус ехаў з абласнога цэнтра, распагодзілася. Свяціла няшчодрае на ласку асенняе сонца. У празрыстым паветры плыло павуцінне. Чырванелі гронкі рабіны на дрэўцах з засохлым лісцем. З месца на месца пераляталі чароды шпакоў на пожні — збіраліся ў вырай. Таццяна падумала: добра б прыехаць ды выбраць вольны дзень і пайсці на знаёмую імшарыну па журавіны. Пайсці з маці і Алёнку з сабою ўзяць. Далекавата, праўда, стоміцца малая, пакуль датупае да таго балота. Можа, веласіпед у каго пазычыць? І яшчэ падумалася, што даўнавата іх не адведваў Сямён з Мурманска. Яна так і не пабывала ў яго з Кацярынай. Ды і наогул яна дамаседка: далей абласнога цэнтра пакуль нідзе не была.

Было смешна, як Пятро Мікітавіч, калі Людка з мужам зайшлі ў кватэру, далікатна прытрымаў на лесвічнай пляцоўцы яе за локаць:

— Запрашаю вас прыехаць да мяне ў госці яшчэ раз.

Потым уважліва пагледзеў ёй у вочы і запытаўся:

— А можна, я прыеду да вас? У мяне ёсць тры адгулы.

Яна адмоўна пакруціла галавой, і ён зразумеў: разыходзяцца іх дарогі.

Яе чакала матчына хата, ля якой у нягодлівыя дні шумеў густой кронай высокі вяз. А пад тым вязам—маленькая альтанка, пафарбаваная ў зялёны колер. Мусіць, даўно праглядзела вочы Алёнка, якой яна везла прыгожае палітэчка...

# НЯХАЙ ЗДЗЯЙСНЯЮЦЦА ЗАДУМЫ

Калі па радыё я чую гэты цёплы, звонкі, трапятлівы голас, адразу пазнаю: пяе Людміла Колас. Шчырасць выказвання, мяккасць, жаноцкасць у спалучэнні з яркім вакалам і прафесійным майстэрствам,— вось вартасці яе творчага аблічча.

Заслужаная артыстка рэспублікі Людміла Колас — адна з вядучых салістак Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. За дзесяць гадоў работы на сцэне стварыла нямала разнастайных вобразаў: Разіна ў «Севільскім цырульніку» Д. Расіні, Віялета ў «Травіяце» Д. Вердзі, Нарына ў оперы «Дон Паскуале» Г. Даніцэці, Сюзана і Барбарына ў «Вяселлі Фігара» В. Моцарта, Алімпія ў «Казках Гофмана» Ж. Афенбаха; Антаніда ў «Іване Сусаніне» М. Глінкі, Марфа і Снягурачка ў операх М. Рымскага-Корсакава «Царская нявеста» і «Снягурачка»... Розныя музычныя стылі, час дзеяння, падзеі, характары, вакальная мова. І работы салісткі, адпаведна, розныя.

Мне даводзілася неаднойчы бачыць Людмілу Колас на сцэне, не раз мы сустракаліся паза тэатрам. Яе цікава слухаць, бо ў размовах з ёю (часам нават у спрэчках) пераконваешся: гэта музыкант, які думае, сумняваецца, шукае свой выканаўчы стыль.

— Я вельмі рэдка бываю задаволена тым, што зроблена. Сваё артыстычнае «я» знайсці нялёгка, нават калі напружана працуеш, марыш і спадзяешся, сумняваешся і расчароўваешся. Здаецца, вось ты ўхапіла за крыло «птушку ўдачы» — і тут жа разумееш: не, гэта яшчэ не тое, трэба пачынаць зноў...

Работай над кожнай новай роляй ці сольнай праграмай трэба зноў і зноў даказваць не толькі калегам, гледачу, слухачу, а — што не менш важна — самой сабе, што ты чагосьці варта. Што твая «зброя» — не толькі голас, а і душа.

— На прафесійнай сцэне вы ўжо дзесяць гадоў. Многага дасягнулі. Які быў ваш шлях у прафесійнае мастацтва?

— Лёгкай дарогі на прафесійную сцэну, як вядома, не існуе... Колькі сябе помню, заўсёды марыла стаць опернай спявачкай. У нашай сям'і вельмі любяць песню. Прыгожае сапрана ў маці і кантральта ў яе сястры — яны складваліся ў цудоўны дуэт, і я ўспрымала гэту музыку з маленства. І маці і цётка не сталі прафесійнымі спявачкамі — вайна распарадзілася па-свойму. Любоўю да музыкі я абавязана сваёй сям'і...

Скончыла Маладзечанскае музычнае вучылішча па класе фартэпіяна. Год вучылася ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі на падрыхтоўчым аддзяленні ў педагога Маргарыты Гатардаўны Людвіг. А потым паехала ў Кіеў, паступіла на першы курс кансерваторыі. Пра педагога, у якога вучылася там, можна гаварыць бясконца. Гэта народная артыстка СССР Елізавета Іванаўна Чаўдар.

Праз год пасля заканчэння кансерваторыі Л. Колас стала лаўрэатам VIII Усесаюзнага конкурсу вакалістаў імя М. Глінкі. Яна ўпэўнена ўваходзіла ў бягучы рэпертуар Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Быў узяты ўдалы старт, ды пачуццё незадаволенасці наведвала яе часта, прымушала працаваць на мяжы сіл.

Надышоў дзень, калі Л. Колас прыняла ўдзел у спецыяльным конкурсе ў Маскве, на якім вылучаліся кандыдатуры маладых спевакоў, што накіроўваліся ў Італію, на стажыроўку ў славуты тэатр «Ла Скала». Чацвёра савецкіх вакалістаў у той год паехалі ў Мілан, сярод іх была і Л. Колас.

— За час стажыроўкі ў «Ла Скала» я пабывала ў многіх гарадах Італіі, слухала спевакоў з многіх краін свету, музыку розных стыляў, наведвала оперныя спектаклі, сустракалася з выдатнымі майстрамі вакальнага мастацтва Італіі. Але галоўнае — вучоба ў школе «Ла Скала», удасканаленне сваёй вакальнай тэхнікі.

— Вы, аднак, не сказалі пра адну вельмі важную для вас падзею, якая адбылася пад час стажыроўкі ў «Ла Скала», — пра ўдзел у Міжнародным конкурсе «Новыя оперныя галасы» і бліскучай перамозе на ім. Такая перамога на конкурсе вакалістаў у Італіі — у славутай краіне «бель канта» — асабліва пачэсная...

— На маім удзеле ў гэтым конкурсе настояла мой педагог Джульета Семіаната. Конкурс быў сур'ёзны, удзельнікі — высокапрафесійныя спевакі. Адзначу вельмі рэдкае патрабаванне: да апошняй мінуты, ужо знаходзячыся на сцэне, канкурсант не ведае, які твор з прапанаванага спісу ён будзе выконваць. Псіхалагічна гэтая акалічнасць вельмі ўскладняе выкананне. На трох конкурсных турах, зразумела, выконвала розную музыку. Першае месца на конкурсе я падзяліла з савецкім спеваком, салістам опернага тэатра з Рыгі Сяргеем Мартынавым. Атрымала таксама спецыяльны прыз за лепшае выкананне музыкі Д. Вердзі — за арыю Джыльды. Пасля конкурсу мяне запрасілі на некалькі канцэртных выступленняў...

Я зразумела, што абавязана сваім поспехам менавіта савецкай вакальнай школе, прадстаўніцай якой з'яўляюся і якая сфарміравала мяне як музыканта... Шчырае пачуццё радасці і гордасці за наша мастацтва і нашу краіну: мы, савецкія стажоры, атрымалі магчымасць здзейсніць свае творчыя планы. А мы ж даведаліся, што многія стажоры з капіталістычных краін не былі ўпэўнены, ці змогуць яны пасля стажыроўкі вярнуцца ў тэатр для далейшай работы...

— Людміла Якаўлеўна, за актыўную канцэртную дзейнасць і творчыя работы апошніх гадоў вам была прысуджана прэмія Ленінскага камсамола Беларусі...

— Вельмі люблю сольныя канцэрты, камерныя спевы, камерную музыку. Думаю, без гэтага оперны артыст не можа існаваць, ён сябе проста абкрадвае. У гэтай галіне пеўчай дзейнасці ёсць, канечне, свае складанасці, свае сакрэты. Тут не «схаваешся» ні за партнёра, ні за аркестр, няма дэкарацый, сцэнічнага грыму. Але мне падабаецца, што ты максімальна набліжаны да аўдыторыі, аказваешся сам-насам са слухачамі, ад цябе залежыць, ці прынясе гэты канцэрт людзям мінуты радасці. Люблю арганныя канцэрты. Неўзабаве зноў буду выступаць у славутай зале Домскага сабора ў Рызе...

Рэдка сустрэнеш опернага спевака, у рэпертуары якога было б столькі разнастайнай музыкі. Зразумела, выконвае Л. Колас і творы кампазітараў нашай рэспублікі — Ю. Семянякі, Л. Абеліёвіча, І. Лучанка. У яе выкананні я не раз слухала, напрыклад, канцэртную арыю Ю. Семянякі на словы Л. Кулянковай «Айчына». Выдатная інтэрпрэтацыя. У беларускім оперным рэпертуары Л. Колас мае толькі дзве партыі — Паола ў «Джардана Бруна» С. Картэса (спектакль ужо даўно не ідзе на сцэне нашага тэатра) і Янінка, маленькая эпізадычная роля ў оперы «Сцяжынаю жыцця» Г. Вагнера. Цікава: ці пішуць беларускія кампазітары спецыяльна для яе, Людмілы Колас?

— Нашы сучасныя кампазітары вельмі рэдка давяраюць лёгкаму сапрана. Вядома, хацелася б атрымаць новыя творы, якія можна выконваць на канцэртнай эстрадзе розных гарадоў краіны, дзе мне выпадае выступаць, прадстаўляючы вакальную культуру рэспублікі.

— А калі гаварыць пра вашы планы?

— Мару пра тое, каб скласці і выканаць канцэртную праграму з лепшых апрацовак беларускіх народных песень. Хачу выканаць адзіны пакуль у беларускай музыцы Канцэрт для голасу з аркестрам Я. Глебава. Наогул жа, творчыя планы мае звязаны ў першую чаргу з працай у тэатры, з яго рэпертуарам.

**Алена РУКАВА.**
Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

# «НЕ ЎЯЎЛЯЮ СЯБЕ БЕЗ АРКЕСТРА»

Сем гадоў аркестрам народных інструментаў Маладзечанскага музычнага вучылішча кіруе выкладчык Тамара Бялькова. Калектыў малады, мастацтва яго адметнае. Сведчанне таго—ганаровае званне лаўрэата рэспубліканскага конкурсу.

Аркестр ведаюць і любяць і ў вучылішчы, і ў горадзе. Штогадовыя справаздачныя канцэрты праходзяць у перапоўненай зале. Асноўная ж работа калектыву—падрыхтоўка праграмы да дзяржэкзаменаў (здаюць экзамены па дырыжыраванні 17—20 чалавек, і кожны дырыжыруе па два творы). Праграма вялікая, падрыхтоўка вымагае багата часу і напружанай працы. Але і за невялікі тэрмін, адведзены для работы, Т. Бялькова дасягае, здавалася б, недасягальнага. Яна здатная захапіць удзельнікаў калектыву сваёй цікавасцю да абраных твораў, узняць да артыстызму выкананне самай markdown розных музыкі.

Т. Бялькова—сапраўдны энтузіяст сваёй справы. Закончыўшы з адзнакай у 1979 годзе Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, яна па накіраванні прыехала ў Маладзечанскае музычнае вучылішча. Ці лёгка быць выхавальнікам амаль сваіх равеснікаў? Трывожылася, сумнявалася. А неўзабаве яе прызначылі старшынёй цыклавай камісіі народных інструментаў, затым даручылі і кіраўніцтва аркестрам... Гатоўнасць працаваць, любоў да музыкі, імкненне падзяліцца ўсім, што



Тамара Бялькова са сваімі выхаванцамі.

# СПРАВАЗДАЧА — І ВЫНІКІ

**У зале Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі адбыўся справаздачны канцэрт навучэнцаў аддзяленняў духавых інструментаў Гродзенскага і Мазырскага музычных вучылішчаў.**

Асабліва парадавала выступленне маладых музыкантаў з Мазыра (загадчык аддзялення духавых інструментаў І. Тарасік). Усе яны — адзінаццаць чалавек — здатныя рыхтавацца да паступлення ў кансерваторыю. У іх ёсць належныя патэнцыяльныя творчыя магчымасці і прафесійныя навыкі. Паспяховая падрыхтоўка гэтых навучэнцаў да паступлення ў ВНУ робіцца справай прафесійнага гонару ўсяго калектыву аддзялення духавых інструментаў вучылішча.

З навучэнцаў IV курса, якія выступілі, асабліва вылучыліся тубіст Ігар Танкашкуры (выкладчык І. Тарасік, канцэртмайстар Р. Пінская) і ўдарнік Генадзь Няпомняшчы (выкладчык І. Андронаў, канцэртмайстар С. Сядлоўская). Прыемна было адзначыць добрую работу канцэртмайстраў: іх карэктную ігру, адчуванне ансамбля, прафесіяналізм.

Дасюль мазырскае вучылішча крытыкавалася за падрыхтоўку кадраў духавікоў. Аднак павышэнне патрабавальнасці з боку кіраўніцтва вучылішча, узмацненне метадычнай дапамогі спецыялістамі кансерваторыі далі пэўны, досыць адчувальны вынік.

Аддзяленне духавых інструментаў Гродзенскага музычнага вучылішча (загадчык аддзялення Л. Петрушак) прадставіла толькі 8 навучэнцаў. Большасць з іх — здольныя маладыя музыканты, як, скажам, трамбаніст Эдуард Калоша (выкладчык А. Камароўскі, канцэртмайстар І. Літвіненка), валтарніст Ігар Лесь (выкладчык В. Стральцоў, канцэртмайстар А. Імбрык), флейтысткі Святлана Мікуліч і Любоў Лук'янчыкава (выкладчык А. Шчэрба, канцэртмайстар Н. Беліч). Усе выступаўшыя навучэнцы маюць неабходныя прафесійныя задаткі. Думаецца, ад іх патрабуецца больш старанная праца і настойлівасць у авалоданні абранай прафесіяй. А вось прад'явіць да вучняў патрабаванні, якія адпавядаюць іх здольнасцям, — гэта задача педагогаў аддзялення і, у першую чаргу, яго кіраўніка!

Пакуль такой патрабавальнасці не адчуваецца. Не адчулася прыкметнага паляпшэння ў рабоце гэтага аддзялення. Нягледзячы на тое, што крытыкуецца яно спецыялістамі кансерваторыі ўжо не першы год. За апошнія пяць гадоў не было нават спробы паступлення ў кансерваторыю фагатыстаў, трубачоў, ударнікаў — выпускнікоў гродзенскага вучылішча. Засмуціла ў цэлым ігра канцэртмайстраў. Іх няўдачы ў акампанеменце аказаліся для нас нечаканымі: Гродзенскае ж музычнае вучылішча зарэкамендавала сябе,

# ЖЫВУЦЬ ТРАДЫЦЫІ

**Споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння В. Андрэева — выдатнага рускага музыканта-віртуоза, стваральніка і кіраўніка першага Вялікарускага аркестра, з якога пачаўся новы накірунак у айчыннай музычнай культуры. Адроджаныя В. Андрэевым рускія народныя інструменты атрымалі шырокае распаўсюджанне не толькі ў нас у краіне, але і за мяжой. Цікавасць да рускай домры і балалайкі ўзрастае і сёння.**

**Заслуга В. Андрэева і ў тым, што ён абудзіў самасвядомасць народных выканаўцаў нацыянальных ускраін Расіі, паказаў ім шлях развіцця народнага музычнага мастацтва—датычыць гэта ці то дутара, ці то бандуры, ці то цымбалаў.**

**У нашай рэспубліцы ідэі В. Андрэева атрымалі значнае развіццё. Сведчанне таго — плённая дзейнасць прафесійных народна - інструментальных калектываў: Дзяржаўнага народнага аркестра БССР імя І. Жыновіча, Камерна-інструментальнага ансамбля Беларускага радыё і тэлебачання, а таксама шырокае распаўсюджанне самадзейных, аматарскіх калектываў.**

**Па ініцыятыве Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі была наладжана навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 125-годдзю В. Андрэева. Яе ўдзельнікі праслухалі даклады, з якімі выступілі кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Маскоўскага дзяржаўнага педінстытута імя Гнесіных М. Імханіцкі, дацэнт БДК С. Кафанаў, в. а. дацэнта БДК В. Шчарбак. Праблемам развіцця самадзейнага аркестравага мастацтва прысвячалася выступленне старшага выкладчыка БПІ кіраўніка народнага аркестра Р. Пармона. Адбылася і цікавая дыскусія па ўзнятых дакладчыкамі пытаннях.**

**У вялікай канцэртнай праграме канферэнцыі былі прадстаўлены салісты і народна-інструментальныя калектывы БДК, іншых музычных устаноў рэспублікі; выступілі таксама госці з Масквы. На сцэну выходзілі лаўрэаты ўсесаюзных і міжнародных конкурсаў, заслужаныя артысты, выкладчыкі і студэнты, вучні-пачаткоўцы. У гэтым выявілася вялікае выхаваўчае значэнне канферэнцыі, якая паяднала розных прадстаўнікоў народна-інструментальнага мастацтва.**

**Л. ТАІРАВА.**

ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

# АРЫЕНЦІР—ЖЫЦЦЁ

## *Народны тэатр—сёння і заўтра*

**Аб перспектывах развіцця аматарскага тэатра рэспублікі працягваюць размову супрацоўнік Брэсцкага абласнога драмтэатра імя ЛКСМБ, наш няштатны карэспандэнт Мікола КАЗЛОВІЧ і рэжысёр народнага тэатра брэсцкага Дома культуры чыгуначнікаў Уладзімір СУСЬКО.**

**М. КАЗЛОВІЧ:** Нездарма ў выступленнях удзельнікаў лімаўскай дыскусіі прагучала трывога за тое, што творчы працэс у народных тэатрах рэспублікі пачаў вымярацца колькаснымі крытэрыямі. Так, расце і колькасць тэатраў са званнем «народны», расце і стос аптымістычных паперак-даведак пра іх дасягненні на сталах у работнікаў аддзелаў культуры. А між тым, зусім пра іншае гавораць і рэжысёры, і выканаўцы, і гледачы. Яны гавораць пра спад творчай актыўнасці, пра адсутнасць пошукаў свайго стылю, рэпертуару ў многіх самадзейных драматычных калектывах. Чым гэта выклікана?

**У. СУСЬКО: Я шукаў бы прычыны застою аматарскага тэатра ў зменах, якія адбыліся ў ягоным сацыяльным статусе. У тым і надзённасць праблемы, што тэатр і жыццё — узаемазвязаны. Вось М. Мацкевіч канстатуе ўзлёт тэатральнай самадзейнасці ў канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў. І гэта праўда. Успомніце, што гэта быў за час. Перад грамадствам, асобай акрэсліваліся новыя, нязведаныя далягляды. Стала рэальнасцю касмічная прастора. Усплёск духоўнай энергіі праявіўся і ў росквіце самадзейнай творчасці, сярод якой важнейшай была тэатральная. Менавіта тэатр — развязваў вузельчыкі ў чалавечых душах. Слову са сцэны верылі...**

**М. К.:** А што здарылася з народным тэатрам сямідзесятых — васьмідзесятых гадоў? Чаму яго апанавала такая творчая інертнасць?

**У. С.: На маю думку, яго проста выціснула дзесьці ў пачатку 70-х гадоў безліч ВІА, дыскатэк. Гэта ж драпежная сіла! Хіба можна давяраць умоўным каштоўнасцям быць пасрэднікамі паміж людзьмі, калі іх мова ні да кога не звернута! У такіх умовах тэатральны глядач проста страціў слых, эмацыянальны зрок. Драмгурток перастаў быць гонарам школы, навучальнай установы. Увогуле тэатральны жанр стаў пасынкам на канцэртах і аглядах.**

**М. К.:** Нельга з гэтым не пагадзіцца. Што заставалася тэатру, які страціў свае пазіцыі? Зноў жа спрабаваць падтрымліваць іх унушальнай бухгалтэрыяй, уяўным дынамізмам. Толькі ж і каштоўнасці выпрацоўваліся ўяўныя. Магу назваць толькі некалькі калектываў, якія заявілі больш-менш сур'ёзна пра сябе на Брэстчыне за апошнія дзесяць гадоў. Сярод іх — мацнейшы—тэатр сатырычных мініяцюр «Маскі» з Пінска. Слабейшыя — у Кобрыне і ў тым жа Пінску, у Палацы культуры «Трыкатажнік». То працуюць, то развальваюцца яны ў інжынерна-будаўнічым і педагагічным інстытутах Брэста. У застоі колькі часу знаходзяцца два народныя калектывы ў Баранавічах. Такое ж становішча ў Іванаве і Целяханах, дзе ніяк не можа вырашыцца пытанне з пастаяннымі рэжысёрамі. Стабільна працуюць толькі, бадай, два тэатры: у Пінскім ГДК і ваш, Уладзімір Паўлавіч. Астатнія нагадваюць блукаючыя зоркі.

**У. С.: Я разумею занепакоенасць Міколы Мацкевіча і Міхася Коласа, якія пачалі гаворку ў «ЛіМе». Мы ўсе ўсведамляем, што надышоў час практычных дзеянняў, каб вярнуць аматарскаму тэатру яго сапраўднае прызначэнне. Уся наша ідэалогія перабудоўваецца, імкнецца зыходзіць з канкрэтных жыццёвых патрэб.**

**М. К.:** Значыць, вы цалкам за эксперымент, прапанаваны М. Мацкевічам? І маральна да яго гатовы?

**У. С.: Дазвольце сустрэчнае пытанне. У вас, у прафесійным калектыве, як справы з гледачом, з планам!**

**М. К.:** Увесь час у нацяжку. Такое становішча, дарэчы, у большасці абласных тэатраў.

**У. С.: Як жа тады размінуцца нам у нашым невялікім горадзе! Ваш прафесійны тэатр хоць мае магчымасць «падсілкоўвацца» на працягу году ў большасці раёнаў. А як, напрыклад, я магу не бачыць канкурэнта і ў тэатры лялек! Перайсці пры такім становішчы на самаакупнасць для нас зусім нерэальна. Вылецім у трубу разам з новым штатным раскладам, катэгорыямі і званнямі! На дзяржаўную датацыю, як прафесіяналам, разлічваць у такім выпадку не давядзецца. Ведаю, такой думкі прытрымліваюцца і іншыя рэжысёры з абласных цэнтраў. Гэта — што тычыцца фінансавага боку справы. Цяпер пра фактары псіхалагічныя. У аматарскім тэатры заўсёды былі і будуць моцныя і слабыя выканаўцы. Дык што, я павінен афіцыйна размежаваць аматараў на катэгорыі!**

**М. К.:** Мабыць, такія маякі і не пашкодзіла б мець?

**У. С.: У аматарскім калектыве — усе роўныя. Гэта маё глыбокае перакананне. Усіх аб'ядноўвае дух аматарства, бескарыслівага служэння мастацтву. Лёгка разбурыць гэты дух, цяжка выхаваць. А сваіх маякоў наш калектыў і так ведае: Тамара Дзмітрыеўна Лібяроўская, Ігар Рыгоравіч Максімаў, Герман Аляксандравіч Бароўскі — амаль равеснікі тэатра. Каля двух дзесяткаў гадоў аддалі яму Людміла Васільеўна Созінава, Анатоль Іванавіч Авакумаў, Фёдар Фёдаравіч Сахарчук. Вось адзначыць іх званнем «Заслужаны артыст народнага тэатра БССР» было б мэтазгодна. Згодзен, што і званне «Заслужаны тэатр БССР» пойдзе на карысць справе.**

**М. С.:** Прызнацца, у прапанове М. Мацкевіча і мяне насцярожвае спроба залішне тэхналагізаваць аматарства.

**У. С.: Рубель ніколі не будзе асноўным дырыжорам і стымулам у самадзейным мастацтве. Асабліва пераканаў у гэтым 40-гадовы юбілей нашага калектыву, які толькі што адсвяткавалі. Уладарылі шчырасць, сардэчнасць. Дзеля гэтага варта ахвяраваць вольным часам, хатняй утульнасцю. Мы ж маем справу з духоўна багатымі людзьмі, а не з водаправодчыкам дзядзькам Васем, якому ўсюды мроіцца рублёўкі. Іншая справа—удасканаліць статут тэатра, як гэта прапаноўваюць калегі. Неабходна ўсё ж пашырыць фінансавыя паўнамоцтвы рэжысёра і калектыву. А пакуль усе гэтыя пытанні ў нашым тэатры вырашае сваёй уладай бухгалтар Дома культуры. Да яе думкі чуйна прыслухоўваецца дырэктар. А мы застаёмся ўбаку. Вось чаму хачу падтрымаць прапанову М. Коласа выкарыстоўваць 25 працэнтаў даходаў за платныя спектаклі, у прыватнасці, для прэміравання ўдзельнікаў па выніках вучэбна-творчага года. Калі так будзе, дык мы зможам праводзіць вечары-партрэты артыстаў, своеасаблівыя спектаклі-бенефісы.**

**М. К.:** У Пінскім ГДК даўно і эфектыўна выкарыстоўваецца гэтая форма матэрыяльнага заахвочвання. І ніякіх спрэчак, канфліктаў. Кожны артыст атрымлівае прэмію ў залежнасці ад асабістага ўкладу ў дзейнасць калектыву.

**У. С.: І ўсё ж вернемся да пытання пераходу на гаспадарчы разлік калектываў вобласці. Здаецца, мая пазіцыя тут ясная!**

**М. К.:** Так. І я з ёй згодны. Думаю, тэатр Пінскага ГДК, якім кіруе Іван Базан, — адзіны, які можа перайсці ўжо цяпер на самаакупнасць. У Доме культуры — зала на 700 месцаў, вопытная пастановачная частка, добрыя ўмовы для рэпетыцый. Восенню мінулага года давялося мне пабываць на спектаклі Я. Сегеля «Я заўсёды ўсміхаюся». Дарэчы, ішоў ён дзесяты раз, а зала была поўнай. Пінчане задаволены, што ў іх ёсць свой таэтр, любяць артыстаў Ганну Кабадзейцаву, Ганну Міхайлаву, Івана Калініна, Аляксандра Бажэлку. Апошні, дарэчы, мае званне «Заслужаны работнік культуры БССР». Наогул, з удзельнікамі тут праблемы няма. Таму тэатр ставіць спектаклі масавыя. Калі ўсе выканаўцы выходзяць на паклон, авансцэны ледзь хапае. Цяпер тэатр паказвае камедыю Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта». І ўсё з тым жа поспехам. Нельга не сказаць добрае слова пра кіраўніка тэатра, выпускніка Мінскага інстытута культуры Івана Базана. Гэта — рэжысёр-працаўнік. Ён не грашыць паспешлівымі авансамі, а бярэцца за справу і прафесійна яе робіць. Таму і мае падтрымку горада, прадпрыемстваў і арганізацый. Вось і кватэру цяпер атрымаў.

**У. С.: Калі аб'ектыўна, дык у Баранавічах існуюць умовы для эксперыменту ў ГДК. Вялікі прамысловы горад, цудоўная зала, вопытны рэжысёр Міхась Стрыжоў.**

**М. К.:** Не, тут я не пагаджуся. Калектыў апошнім часам згубіў творчае аблічча, а разам з ім і гледача. Пацікаўцеся, што ставіць тэатр. Адны аднаактоўкі, толькі б менш удзельнікаў было занята, бо людзей у калектыве мала. Але ў перспектыве ў Баранавічах можа быць свой тэатр. Паўпрафесійны.

**У. С.: Думаю, што ў Пінску варта аб'яднаць тры народныя тэатры ў своеасаблівы кааператыў на долевых пачатках. У Баранавічах таксама існуе рэальная магчымасць стварыць такое аб'яднанне з двух народных калектываў. Для масовак запрашаць удзельнікаў народных агітбрыгад. Гэта ўжо сіла, рэпертуар на месяц можна планаваць, афішу выдаваць.**

**М. К.:** Цікавая думка. Хоць давядзецца прабіваць яе праз ведамасныя перашкоды. Калектывы ж — прафсаюзныя і «міністэрскія».

**У. С.: А чаму б не прызначыць Пінск месцам правядзення двухгадовага эксперыменту! Маладзечна і Мазыр таксама. Мы ж будзем вывучаць яго вынікі і ўсё карыснае выкарыстоўваць. Думаю, такі шлях найбольш рацыянальны.**

**М. К.:** Уладзімір Паўлавіч, на мой погляд, М. Мацкевіч залішне спадзяецца на стымулюючую ролю фінансаў. Да таго ж, не зусім зразумела, як ён бачыць новае жыццё тэатраў астатніх дзвюх катэгорый—ніжэйшых. Куды больш рэалістычна мысліць М. Колас. Заслугоўвае ўвагі ягоная думка наконт шматлікіх праблем творчага, арганізацыйнага характару, вырашаць якія трэба тэрмінова. Прыклад? Калі ласка! Калі вы са сваім калектывам былі ў абласным тэатры на здачы новага спектакля?

**У. С.: Не прыпамінаю.**

**М. К.:** Тое ж самае скажуць і іншыя рэжысёры. А між тым, у тэатр вас, аматараў, трэба запрашаць не ў госці, а на працу. Што, як не рэпетыцыі, здача спектакляў можа стаць школай майстэрства? Збіраецца мастацкі савет, прыязджаюць крытыкі, вядзецца прафесійны разбор мізансцэн, сцэнаграфіі, работ асобных артыстаў. Увогуле, у адносінах паміж прафесійным і аматарскім тэатрам столькі нявыкарыстаных творчых рэзерваў! Чаму б вам не запрашаць да пастановак нашых рэжысёраў, найбольш здольных артыстаў? Цяпер другі бок пытання. Толькі ў апошні час з рэпертуару нашага тэатра зняты такія спектаклі, як «Парог», «Нехта павінен пайсці», «Лэдзі Макбет Мцэнскага павета», «Ціхі прытулак», «Антыгона», «Рускае пытанне», некалькі казак. Чаму б рэквізіт, касцюмы не выкарыстоўваць аматарам? А, можа, варта арганізаваць своеасаблівы пункт пракату тэатральнага рэквізіту? На жаль, ніхто гэтымі пытаннямі не займаецца. А колькі было б карысці!

**У. С.: Нам усім трэба сёння падумаць над пашырэннем маральнага статуса тэатра. Мне заўсёды прыкра, калі ў абласной або іншай газеце друкуецца артыкул, галоўным пафасам якога з'яўляецца штучная радасць аўтара ад таго, што Іван Пятровіч, напрыклад, пасля змены не ідзе «забіваць казла», а спяшаецца на рэпетыцыі аматарскага тэатра. Чаму мы пазбягаем гаварыць пра самадзейнасць усур'ёз, называючы поспех поспехам, а няўдачу — няўдачай! Пра гэта, дарэчы, гаворыць у сваім выступленні М. Шутаў. Час на самадзейнасць зірнуць не праз ружова-павелічальныя шкельцы, а як на паўнапраўную частку нашай духоўнай культуры. Да абласнога драмтэатра ў мяне ёсць прапанова: устанавіць штогадовыя спецыяльныя прызы для аматарскіх тэатраў — за лепшую рэжысёрскую работу, а таксама за лепшую ролю — мужчынскую і жаночую. А прадпрыемствы, калгасы! У вобласці працуюць такія гіганты, як Брэсцкі электрамеханічны завод, Баранавіцкі завод аўтаматычных ліній, Пінскае вытворчае прадзільна-трыкатажнае аб'яднанне, вядомыя ў рэспубліцы калгасы «Савецкая Беларусь» Камянецкага, «Аснежыцкі» Пінскага, «40 год Кастрычніка» Іванаўскага раёнаў. Упэўнены, гонарам для кожнага аматарскага калектыву, у тым ліку і тэатра, было б атрымаць ад іх прыз або прэмію за творчыя дасягненні.**

**М. К.:** Думаецца, варта паставіць кропкі над «і» ў праблеме «вучыцца ў прафесіяналаў». Вучыцца майстэрству, безумоўна, трэба. А вось будаваць работу па прафесійным прынцыпе — шкодна. Я праціўнік усякіх адборачных конкурсаў сярод аматараў па сцэнічнай мове, рытміцы. Не кожны адважыцца на такое выпрабаванне. Правільна робяць тыя рэжысёры, хто прытрымліваецца прынцыпу студыйнасці, адчыненых дзвярэй. Пра гэта пісаў В. Грыгалюнас, у прыватнасці. Хіба менш здольнаму чалавеку, які хоча ўдзельнічаць у жыцці тэатра, не знойдзецца месца ў масоўках, пастановачных работах, асвятленні, музычным афармленні? Любога можна прыцягнуць да чыткі п'есы, абмеркавання спектакля, арганізацыі гледачоў.

**У. С.: Дарэчы, калі б не заўважыў у свой час кіраўнік драмгуртка Баранавіцкага клуба чыгуначнікаў Аляксандр Сакалоў здольнага падлетка, не падтрымаў, дык не мелі б, мабыць, мы сёння вядомага кінарэжысёра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Міхаіла Пташука.**

**М. К.:** Колькі б талентаў нас не акружала, а плёну не чакай, калі рэжысёр не звяртае ўвагі на выхаваўча-творчую работу. Зноў-такі прыгадаю баранавіцкі калектыў. Трэба святкаваць 30-гадовы юбілей, абвяшчаць пераможныя рэляцыі, а з тэатра пайшлі каля дзесяці актыўных удзельнікаў. Вось і прыйшлося гаварыць «быў», «іграў», «зрабіў». Упусціў дзесьці М. Стрыжоў момант — страціў людзей. Пачаў ставіць малафарматныя, урэзаныя спектаклі — упаў аўтарытэт, папулярнасць. Рэжысёр шукае пастаноўкі з выйгрышнай «закавыкай» і аказваецца ў палоне безгустоўшчыны. Зусім іншае становішча ў І. Базана ў Пінску. Не толькі асноўная, але і маладзёжная група, студыйцы свае спектаклі ставяць. А нядаўна ветэраны вайны і працы стварылі свой калектыў.

**У. С.: Аблегчаны шлях у нашай справе — шлях да няўдачы. Я прынцыповы праціўнік *спектакляў спрошчаных*, напісаных спецыяльна для аматараў. Калі браліся за Шэкспіра, некаторыя сумняваліся. Усё ж — класіка! «Рычард III», «Гамлет», «Рамэа і Джульета»... Сапраўды цяжка было. Заказ на касцюмы ў Мінску не ўзялі. Давялося наводзіць масты ў Брэсце, у атэлье «Брастаўчанка», на фабрыцы «Індпашыўадзенне». Паступова не толькі цудоўных закройшчыц адшукалі, але і дыпламаваную мастачку, якая зрабіла нам эскізы усіх касцюмаў. Больш за год працягваліся гэтыя пакуты. Затое, якое маральнае задавальненне пасля прэм'еры, якіх выдатных памагатых знайшлі! Цяпер бяромся за «Пратакол аднаго пасяджэння» А. Гельмана — псіхалагічная рэч, глыбокая...**

**М. К.:** Неяк у гаворцы І. Базан скардзіўся, што за шэсць гадоў работы ў Пінску толькі два разы выехаў на вучобу ў Мінск. Нарэшце пашчасціла пабываць яму на семінары ў чэшскім горадзе Шумперку. У ЧССР аматарскія тэатры невялікія, штатных рэжысёраў не маюць, працуюць выключна на аматарскіх асновах. Да пастаноўкі бярэцца нацыянальная і сусветная класіка, рэчы складанейшыя, здавалася б, аматарам не па плячы. Але поспех заўсёды вялікі. Асабліва заслугоўвае ўвагі вось што: разам з рэжысёрам на семінарах вучацца артысты. У нашых сяброў ёсць і такая добрая традыцыя — давяраць выканаўцам рэжысёрскія работы.

**У. С.: Пакуль што ў нас працуюць пераважна аднатыпныя самадзейныя драматычныя калектывы. А дзе эксперыментальныя студыі, тэатры аднаго акцёра, пантамімы, мініяцюр, тэатры-кафэ!**

**М. К.:** Спадзяюся, рэарганізацыя, эксперымент дапамогуць прыйсці да іх. Цяпер, калі слова набывае вагу, тэатры проста абавязаны заняць сваё месца на стрыжні жыцця.

г. Брэст.

# Тэатр і час

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4, 13).

**Мы чакаем ад новага творчага саюза, сказаў на заканчэнне Ю. М. Міхневіч, шырокіх ініцыятыў па ўсіх напрамках жыццядзейнасці тэатра.**

АПОШНІМ часам усе прызвычаіліся чуць, што, маўляў, акцёры цяпер не тыя, знікае акцёр-асоба... Але адкуль возьмецца такая асоба, калі большай залежнасці—ад рэжысёра, ад дырэктара, — чым тая, у якой знаходзіцца акцёр, цяжка ўявіць, сказала заслужаная артыстка БССР **Л. Карнеева.** У гомельскім тэатры, дзе я працую, за мінулыя два з палавінай гады змянілася чатыры галоўныя рэжысёры, і многія думаюць: вось дык калектыўчык, вось дык «ядуць»! Толькі ж мы не выбіраем сабе рэжысёраў, іх прысылаюць.

Анатоль САБАЛЕЎСКІ і Здзіслаў СТОМА.

У 1985 годзе нам прадставілі рэжысёра Г. Піменава, сказалі шмат добрых слоў пра яго. Ён пачаў... вучыць акцёраў хадзіць на сцэне. Пасля пайшоў з тэатра. Цяперашні галоўны, Г. Прымак, — вучыць нас размаўляць. Скажа фразу, а ты павінен паўтарыць, захаваўшы інтанацыю, — тады ты добры акцёр. Праз два месяцы ён заявіў, што не жадае працаваць з рэжысёрамі В. Бартосікам і Я. Натапавым, выхаванцам беларускай тэатральнай школы, і запрасіў пастаноўшчыка збоку. Хіба так можна? Адкуль возьмецца здаровая атмасфера ў калектыве, калі большасць пазбаўлена магчымасці працаваць, даводзіць сваю прафесійную і творчую годнасць? А летась жа толькі 22 акцёры нашага тэатра былі заняты ў бягучым рэпертуары...

**Нашы спектаклі глядзелі ўдзельнікі выязнога прэзідыума БТА. Ганіць—не ганілі, але і не пахвалілі. Галоўны рэжысёр вельмі абурыўся і сказаў, што з Мінска крытыкаў больш клікаць не будзем, запросім з Масквы...**

**У мастацкі савет тэатра ўвайшлі людзі, кандыдатуры якіх выклікалі здзіўленне ў калектыве. Калі запыталіся, чаму так, у адказ пачулі: «Яны перабудаваліся». І вось я мяркую так: прыйду заўтра ў тэатр, скажу дырэктару і рэжысёру, што не спала ўсю ноч, перабудоўвалася і зразумела: вы—добрыя кіраўнікі. Думаеце, не павераць? Павераць...**

Наш творчы саюз павінен мець права актыўна ўдзельнічаць у акцёрскім лёсе, рабіць усё магчымае, каб у творчага работніка не было страху за заўтрашні дзень, каб заўсёды быў у яго дах над галавой і любімая праца.

**У ТВОРЧАЙ дыскусіі таксама ўдзельнічалі доктар філасофскіх навук А. ЛАДЫГІНА, акцёр Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Г. ДАВЫДЗЬКА, галоўны рэжысёр Рускага тэатра БССР імя М. Горкага В. МАСЛЮК, галоўны рэжысёр Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. РАЕЎСКІ, ткачыха Мінскага камвольнага камбіната Л. ТРУСАВА, галоўны рэжысёр Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча М. КАВАЛЬЧЫК, доктар мастацтвазнаўства Ю. ЧУРКО, рэктар БДТМІ доктар мастацтвазнаўства А. САБАЛЕЎСКІ, галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек БССР А. ЛЯЛЯЎСКІ, дырэктар Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа заслужаны работнік мастацтваў БССР Г. АСВЯЦІНСКІ, кандыдат мастацтвазнаўства Ю. СОХАР, галоўны рэжысёр Тэатра-студыі кінаакцёра заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Б. ЛУЦЭНКА, галоўны рэжысёр Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра БССР Р. БАРАВІК, саліст Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР заслужаны артыст БССР В. СКОРАБАГАТАЎ, галоўны мастак Тэатра-студыі кінаакцёра Д. МОХАЎ, галоўны рэжысёр Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра заслужаны дзеяч мастацтваў ТАССР І. ПЯТРОЎСКІ, акцёр Дзяржаўнага тэатра лялек БССР заслужаны артыст рэспублікі У. ГРАМОВІЧ, кандыдат мастацтвазнаўства Т. ГАРОБЧАНКА, рэжысёр Краснапольскага народнага тэатра В. ЕРМАЛОВІЧ, галоўны дырыжор Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР народны артыст РСФСР Г. ПРАВАТОРАЎ, актрыса Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР Л. РАБУШКА.**

**Праблем і задач, якія стаяць перад майстрамі сцэны, шмат, гаварылі дэлегаты. Яны абумоўлены самім жыццём, яго перабудовай і абнаўленнем, працэсам тэатральнага будаўніцтва. Але дзеячам тэатра прадастаўлены сёння вялікія правы і паўнамоцтвы. Зрабіць усё магчымае для далейшага развіцця тэатральнай культуры, для прымнажэння духоўнага багацця краіны—іх найпершы доўг і абавязак.**

**На з'ездзе выступіў сакратар ЦК КПБ В. А. ПЯЧЭННІКАЎ.**

ДЭЛЕГАТЫ аднадушна вырашылі пераўтварыць Беларускае тэатральнае аб'яднанне ў Саюз тэатральных дзеячаў БССР. Адбыліся выбары кіруючых органаў новага творчага саюза—праўлення і рэвізійнай камісіі.

На першым арганізацыйным пленуме праўлення старшынёй прэзідыума праўлення Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі абраны **М. Яроменка**, сакратарамі саюза сталі **І. Белавусаў, А. Дудараў, В. Елізар'еў, С. Косцін, Р. Паноў, В. Раеўскі, Р. Янкоўскі.**

На пасяджэнні рэвізійнай камісіі старшынёй абраны **Э. Герасімовіч.**

**Справаздачу падрыхтавалі А. ГАНЧАРОЎ, Ул. КРУК (фота).**

## З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ

# АД КАНА ДА МАНАКА

**А. ШАБАЛІН**

**Паездка ў Францыю, уражаннямі пра якую я хачу падзяліцца з чытачамі «ЛіМа», завяршылася шчаслівым, мажорным акордам. Уяўляеце, пад скляпеннямі славутага канскага фестывальнага палаца ўрачыста гучыць мелодыя Дзяржаўнага Гімна Савецкага Саюза, а высока ўгору, пад самую столь, узнімаецца флаг СССР.... Так арганізатары міжнароднага фестывалю інтэлектуальных гульняў, што праходзіў тут на працягу больш чым двух тыдняў і на якім мне давялося быць у якасці кіраўніка савецкай дэлегацыі, віталі пераможцаў жаночага шашачнага чэмпіянату свету. Усе тры прыступкі п'едэстала гонару занялі савецкія дзяўчаты, сярод якіх — дзве мінчанкі.**

**Побач з гэтым, самым адметным і хвалюючым уражаннем, атрыманым у Кане, жывуць у памяці і іншыя падзеі, назіранні, сустрэчы, што адбыліся на французскай зямлі.**

**АЎТАР.**

I

Славуты французскі гарадок Кан, што размясціўся па паўночным узбярэжжы Міжземнага мора і арганічна ўпісаўся ў буйнейшы ў Заходняй Еўропе курортны раён Рыўера, ці як яго яшчэ называюць — Блакітны бераг, большасць з нас ведае як Каны. Так яно, дарэчы, усталявалася не толькі ў шырокім ужытку, але і ў перыядычным друку, хоць афіцыйныя даведнікі і геаграфічныя атласы цвёрда трымаюцца французскага правіла вымаўлення і напісання назвы гэтага горада. Чаму яно гучыць у нас у множным ліку — Каны замест Кан, — цяжка сказаць. Можа, пад уплывам традыцыйнага моўнага строю назваў некаторых другіх населеных пунктаў — накшталт Карачы, Сочы, Сумы, Вялікія Лукі, Масты? А можа, асацыяцыі вядуць у глыбіні стагоддзяў і нагадваюць вядомае яшчэ са школьных падручнікаў італьянскае паселішча Каны, у наваколлі якога больш чым дзве тысячы год назад, у часе другой Пунічнай вайны, карфагенская армія Ганібала знішчыла 70-тысячнае войска рымлян?..

Дарэчы, Кан таксама ўпісаў не адну старонку ў гісторыю міжнародных зносін. У прыватнасці, менавіта тут у студзені 1922 года праходзіла тая самая Канская канферэнцыя Вярхоўнага савета Антанты, якая стала папярэдніцай Генуэзскай эканамічнай і фінансавай канфэрэнцыі з удзелам дэлегацыі Савецкай Расіі.

Звычайна мы ў сваім уяўленні звязваем Кан з аўтарытэтнымі міжнароднымі кінафестывалямі, якія праводзяцца тут спрадвеку, даўно сталі традыцыйнымі і адкрылі свету такія кінематаграфічныя шэдэўры, як «Плата за страх» А.-Ж. Клузо, «Ляцяць жураўлі» Міхаіла Калатозава, «Леапард» Лукіна Вісконці, «Шэрбургскія парасоны» Жака Дэмі, «Мужчына і жанчына» Клода Лелюша... На вялікі жаль, апошнім часам канскія фестывалі пачынаюць страчваць свае пазіцыі. Іх высокі творчы дух аказваецца бяссільным пад напорам камерцыйных памкненняў дзялкоў ад мастацтва. І тады першым экранам у славутым фестывальным палацы ідуць такія злавесна-фашысцкія, напоўненыя шалёным антысаветызмам стужкі, як «Рокі» і «Рэмба» з амерыканскім акцёрам Сталоне ў галоўных ролях, больш вядомым сваёй літой мускулатурай і магільна-халодным позіркам, чымся творчымі магчымасцямі і інтэлектам.

Варта адзначыць, што канскія фестывалі ў пэўным сэнсе адлюстроўваюць агульныя працэсы, якія адбываюцца сёння ў французскім кінематографе. Колькасць фільмаў, што выпускаюцца ў гэтай краіне, няўхільна скарачаецца. Працягвае падаць наведванне залаў. Як паказалі апытанні грамадскай думкі ў Францыі, палова французаў зусім не ходзіць у кіно. А тых, хто ўсё ж наведвае кінатэатры, больш цікавяць не айчынныя стужкі, а амерыканскія экранныя жахі і парнаграфія.

Так, так, амерыканскую кінапрадукцыю французы глытаюць ахвотна. Задужа пікантна выглядае гэты тавар на маляўнічых рэкламных шчытах, каб не спакусіцца пакаштаваць яго на смак. Спачатку, канечне, кончыкам языка. А потым — і на поўны рот.

Янкі ж тым часам падбіваюць рахункі выгаднага бізнесу і, не міргнуўшы вокам, разважаюць пра няўхільнае пашырэнне культурнага абмену паміж дзвюма дзяржавамі. На самай справе, пад маркай культурнага абмену праводзіцца бессаромная ідэалагічная агрэсія, якая вольна ці міжвольна скіравана на разбурэнне нацыянальнай культуры іншай дзяржавы...

Кан не выпадкова вабіць да сябе шматтысячныя натоўпы курортнікаў, турыстаў, дзелавых людзей ці тых жа творцаў. Умовы тут як для адпачынку, так і для дзелавых ці творчых спрэчак — самыя прыдатныя. Горад прыемны і ўтульны, сонечны і цёплы ў любую пару года. Прыморскія Альпы, што цягнуцца наўсцяж па ўзбярэжжы Міжземнага мора ажно да самай італьянскай граніцы, заступаюць доступ у гэтыя мясціны халодным атлантычным вятрам. Таму сярэдняя тэмпература нават такога халоднага месяца, як студзень, вагаецца тут недзе ў межах васьмі градусаў вышэй нуля.

Праўда (вось дзе ўжо іронія лёсу!), менавіта такой цёплай зімой, калі аўтару гэтых радкоў давялося быць у Кане, на горад абрынуўся густы снегапад. Сімпатычны парцье нашага атэля Жульен, які і да гэтага скардзіўся на суровую сёлетнюю зіму, хоць ртутны слупок тэрмометра не апускаўся ніжэй за плюс дзесяць, — дык вось, у тую мяцеліцу Жульен зусім разгублена, нібы апраўдваючыся гаварыў: «Такое ў нас здараецца раз у пятнаццаць гадоў! Так, так... Пачытайце прэсу. Раз у пятнаццаць гадоў».

Мяцеліца пачалася вечарам, а да ранку ўся зелень горада была накрыта белым снежным покрывам. Толькі дзенідзе палымнелі з-пад снегу ярка-чырвоныя, як кроплі крыві, лісточкі дзівосных паўднёвых кветак, ды ўладарыла над галовамі ядраная зеляніна пальмавых веяроў. Высветлілася, дарэчы, што і гэтыя дрэвы з тоўстымі касматымі стваламі і пругкім, як бы высечаным з зялёнай бляхі лісцем, — зусім безабаронныя і запешчаныя. Нашто ўжо лёгкі снег — як пух, здаецца, — а і пад ім трушчыліся пальмавыя лісты.

Нават старонняму воку было відаць, што горад адчувае нязвыклы і нечаканы дыскамфорт. Вуліцы, і да гэтага не дужа багатыя на пешаходаў, зусім абязлюдзелі. Былі пазачыняны летнія бістро ля тратуараў. З хуткасцю пешаходаў рухаліся па дарогах, як бы баючыся паслізнуцца, аўтамабілі. Чапурыстыя францужанкі, што нязменна робяць ранішнія мацыёны па марской набярэжнай, выйшлі ў футравых манто, апранулі ў цёпленькія куртачкі сваіх выпешчаных спадарожніц — сабачак самых розных парод і масцей.

Але праз дзень снег растаў, і па схілах гор жвава, з вясёлым гоманам, як школьнікі на перапынак, пабеглі ўніз раўчукі, шчодра амываючы экзатычную паўднёвую раслінасць — чароўныя вечназялёныя зараснікі калючага дрока, ладанніка, фісташкі, каменнага дуба, размарына, каб ужо ля падножжа гор напаіць чыстай вадзіцай тлустыя чырваназёмы, засаджаныя вінаграднікамі, аліўкавымі гаямі, скрозь раскрэсленыя дзялянкамі лімонаў, гранатаў, апельсінаў, смакоўніцы...

Цёплае паветра зноў ахутала Кан. Зіма ўступіла ў свае правы. Парадаксальна гучыць апошняя фраза ў святле папярэдняй, але, як гаворыцца, факт!

Дарэчы сказаць, і лета ў Кане лагоднае: чэрвеньскую ці ліпеньскую спёку змякчаюць свежыя марскія брызы, таму сярэдняя тэмпература гэтых месяцаў не перавышае тут 22-х градусаў па Цэльсію.

Ціха плёскаюць марскія хвалі ў бакі прышвартаваных да берага беласнежных яхт. Іх тут сотні, з усіх, здаецца, канцоў свету, пра што сведчаць разнастайныя нацыянальныя сцяжкі на фок-мачтах. Не дзіўна: берагі семнаццаці краін абмываюць сёння воды Міжземнага мора, якое яшчэ старадаўнія рымляне называлі Унутраным морам («Mare internum»).

Крыху воддаль глядзіцца ў ваду, як карабель, гмах славутага канскага фестывальнага палаца. Асабліва прыгожы ён увечары, калі шчодра расцякаецца ілюмінацыя па ўсіх яго паверхах - палубах. Пазірае на палац усыпанае зоркамі неба непаўторнай прыгажосці, абавязанае сваёй празрыстай чысцінёй прынесенаму сюды з Сахары гарачаму паветру.

Але спрадвечная лагода прыроды жыве тут побач з ультрасучаснымі рэаліямі. За падманлівым курортным макіяжам многіх міжземнаморскіх гарадоў хаваецца цяжкая прамысловасць з усімі яе шкоднымі выкідамі ў атмасферу і ваду. Побач з рыбацкімі лодкамі рассякаюць хвалі гіганцкія танкеры, прачэсваюць дно траўлеры. Яшчэ больш горычы надае ўсведамленне таго, што яснае тутэйшае неба з рання да вечара шнуруюць белымі паласамі рэактыўныя самалёты зусім не мірнага прызначэння, што бараздзяць блакітныя марскія воды груваскія шэра-чырвоныя к а р а б л і з ядзернай зброяй на борце. Дакладна вядома: іх — 45, і належаць яны шостаму флоту Злучаных Штатаў Амерыкі.

Чаго не хапае чалавеку ў сённяшнім тлумным свеце — дык гэта спакою і цішыні. І яшчэ — яднання з прыродай. Колькі б ні падманваў сябе сучасны гараджанін, што яму больш даспадобы жыць адгароджаным ад белага свету бетонам, кафляю, паркетам, а

